


# Наша Слова





ЯГОНЫ КРЫЖ — Стар.2.

РЭФЕРЭНДУМНАЯ ДЭМАКРАТЫЯ — Стар.3.

ШТО ДАПАМАГАЕ СКАРЫНАЎЦАМ — Стар.4.



Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 47 (311) | 21 — 27 лістапада 1996 г. | Кошт -- 1000 рублёў


## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **Юрый Малумаў і Пятро Краўчанка ўдзельнічалі ў абмеркаванні пытання аб сітуацыі ў Беларусі ў Пастаянным камітэце Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.** Слуханні гэтыя былі ініцыіраваныя прэзідэнтам ПАСЕ Лені Фішэр, якая нядаўна наведала нашу краіну. Парламенцкая асамблея прызнала суверэннае права беларускага народа зрабіць неабходныя рэформы Канстытуцыі, аднак гэтая рэформа павінна быць падрыхтаваная ва ўмовах шырокага абмеркавання ў свабодных і плюралістычных сродках масавай інфармацыі, якіх, на думку еўрапейскіх парламентарыяў, цяпер у Беларусі фактычна няма. Парламенцкая асамблея заклікала Беларусь вырашаць канстытуцыйны крызіс у рамках дэмакратычных працэсаў і захавання палітычнай стабільнасці. Толькі калі Беларусь будзе заставацца на прынцыпах дэмакратызацыі, магчыма будзе весці размову аб яе членстве ў Савеце Еўропы. Застаецца нагадаць, што Беларусь засталася амаль адзінай краінай Еўропы, не прынятай у ПАСЕ.

○ ***Штогадовая сустрэча кіраўнікоў урадаў і міністраў замежных спраў краін*** *— удзельніц Цэнтральна-еўрапейскай ініцыятывы (ЦЕІ), якая аб'ядноўвае цяпер 16 дзяржаваў, адбылася ў аўстрыйскім горадзе Грац. Сёлета ў траўні паўнапраўным членам ЦЕІ стала і Рэспубліка Беларусь. Нашу дэлегацыю ўзначальваў прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір, які выказаў думку, што ЦЕІ трэба больш удзяляць увагі праблемам ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі. Але на сённяшні дзень, гледзячы на палітычную сітуацыю ў нашай краіне, многія адвярнуліся ад нас — так што трэба спадзявацца толькі на ўласныя сілы.*

○ **З друку стала вядома**, што з 1 студзеня 1997 года павышаецца на 25 працэнтаў стыпендыя для ўсіх студэнтаў ВНУ краіны. Студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта пашанцавала яшчэ больш: ім з пачатку года стыпендыя будзе павышана на 45 працэнтаў. А пакуль што павышаюцца цэны ў крамах.

○ ***У Гародні адкрыты новы культурны цэнтр імя К.Каліноўскага.*** *У яго склад увайшлі бібліятэка "Адраджэнне", дыскусійны і гісторыка-краязнаўчы клубы, тэатральная студыя, сацыяльна-псіхалагічная служба і шматлікія гурткі розных накірункаў. Цэнтр плануе выпускаць літаратурны альманах і газету. Трэба спадзявацца, што новыя выданні не будуць цурацца беларушчыны.*

○ **З 16 па 21 лістапада Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа адзначаў свой 70-гадовы юбілей. Віншуем!**

○ ***Пад самотныя гукі гімна "Магутны Божа"*** *ў Дзяржаўным мастацкім музеі Беларусі адкрылася выстава жывапісу мастака Міколы Селяшчука, прысвечаная яго памяці. Выставу можна будзе наведаць да 9 снежня.*

○ **Нацыянальным банкам Беларусі ўведзены ў абарачэнне разліковы білет Нацбанка вартасцю 100 000 рублёў.** Новая купюра мае сем ступеняў абароны. На адным баку банкноты — выява будынка Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, на другім — выява фрагмента з балета Яўгена Глебава "Выбранніца" паводле паэмы Янкі Купалы. Наступная купюра будзе ў 500 000?

○ ***Працягваецца падпіска на рэспубліканскія выданні на першае паўгоддзе 1997 года.*** *На "Наша слова" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Да канца падпіскі засталося крыху больш за тыдзень.*

*Але!*

## Дзяржаўны пераварот? Ці людзі не дазволяць? Пераможа здаровы сэнс?

Падзеі вакол рэферэндуму ўсё ж пачалі, на жаль, разгортвацца па горшым са сцэнараў. 14 лістапада А.Лукашэнка ўказам зняў з пасады старшыню Цэнтрвыбаркама В.Ганчара, хаця па Канстытуцыі гэта мог зрабіць толькі Вярхоўны Савет. Раніцай 15-га будынак ЦВК быў ачэплены міліцыяй і "невядомымі асобамі ў цывільным", а Віктара Ганчара пад рукі вывалаклі з памяшкання выбарчай камісіі. Акцыяй кіраваў небезвядомы начальнік службы аховы будынкаў прэзідэнцкай адміністрацыі палкоўнік Цесавец, той самы, які ў красавіку мінулага года "выдвараў" з Авальнай залы дэпутатаў апазіцыі. Гэты "герой" спачатку спрабаваў не пусціць у будынак нават Старшыню Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага і Генеральнага пракурора Васіля Капітана, якія з групай дэпутатаў і журналістаў прыбылі да Цэнтрвыбаркама.

Сямён Шарэцкі заявіў, што ў краіне пачаўся незаконны захоп улады Прэзідэнтам Лукашэнкам, прасцей кажучы, дзяржаўны пераварот. Гэтыя словы прагучалі ў той жа дзень у праграмах тэленавінаў буйнейшых тэлекампаній свету, а ўвечары С.Шарэцкі зачытаў зварот Прэзідыума Вярхоўнага Савета да грамадзянаў краіны, членаў Кабінета Міністраў, кіраўнікоў абласцей і раёнаў, сілавых структур, а таксама кіраўнікоў іншых дзяржаваў. У ім гаворыцца пра незаконны захоп улады Прэзідэнтам Лукашэнкам і выказваецца ўпэўненасць, што сумеснымі намаганнямі беларускі народ і сусветная супольнасць не дазволяць аднаму чалавеку скаціць краіну ў бездань беззаконня і гвалту.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета сабраліся на чарговую сесію. Паралельна праведзены збор подпісаў парламентарыяў для распачацця працэдуры законнага адхілення ад улады Прэзідэнта. Іх сабрана дастаткова — больш за 75. А.Р.Лукашэнка, у сваю чаргу, нанёс прэвентыўны ўдар па Цэнтральнай выбарчай камісіі, дэстабілізаваўшы яе функцыянаванне.

А ў нядзелю акцыю ў падтрымку Вярхоўнага Савета і супраць манапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі і замбіравання насельніцтва правёў Беларускі Народны Фронт. Прыкладна 10 тысяч чалавек сабралася раніцай 17 лістапада на плошчы Я.Коласа. Улады дазволілі правядзенне мітынгу на плошчы Бангалор. Дэманстранты спачатку накіраваліся ў бок вызначанага месца акцыі, але, прайшоўшы пару кварталаў, павярнулі на праспект Ф.Скарыны і рушылі да рэзідэнцыі Вярхоўнага Савета. Першы кардон з жаўнераў унутраных войск сустрэў дэманстрацыю каля цырка. Пасля непрацяглага стаяння калона збочыла на вуліцу Я.Купалы, потым на Інтэрнацыянальную і дайшла да скрыжавання вуліцы Валадарскага з праспектам Скарыны. Там людзей чакаў узмоцнены кардон, і пры яго прарыве адбыліся сутычкі дэманстрантаў з ахоўнікамі. Да людзей звярталіся віцэ-спікер Генадзь Карпенка, былы міністр унутраных спраў Юрый Захаранка, дэпутат Павел Знавец і іншыя палітыкі. Генадзь Карпенка падзякаваў людзям за падтрымку Вярхоўнага Савета і заклікаў усіх прыйсці ў панядзелак на плошчу Незалежнасці, калі распачнецца сесія парламента.

Тым часам варта задацца пытаннем, што ў дазенай сітуацыі здольны зрабіць Вярхоўны Савет? Унесці пытанне аб імпічменце — адхіленні Прэзідэнта ад улады на разгляд цалкам рэальна і ў такім выпадку паўнамоцтвы прэзідэнта часова пераходзяць да спікера Шарэцкага. Рашэнне цалкам законнае і дае магчымасць супрацоўнікам сілавых ведамстваў не выконваць загадаў чалавека, уладныя паўнамоцтвы якога прыпыненыя. Хаця нельга выключаць і таго, што імпічмент правесці ўдасца. У гэтым выпадку пры сённяшняй сітуацыі правядзенне рэферэндуму губляе ўсялякі сэнс. Аналітыкі мяркуюць, што А.Лукашэнка зразумеў, што перамагчы законным шляхам яму не ўдасца і таму ён пайшоў на неканстытуцыйны захоп улады. ходзяць чуткі, што ім падрыхтаваны ўказ аб роспуску Вярхоўнага Савета. Калі ўсё адбудзецца менавіта так, то на Беларусі будзе "горача".

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**



Нядаўна ў таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі пасол Італіі ў Рэспубліцы Беларусь Джан Лука Бертынета ўручыў ордэн Італьянскай Рэспублікі "За заслугі" народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву. Гэта першая італьянская ўзнагарода, якая ўручана пісьменніку незалежнай Рэспублікі Беларусь у знак прызнання яго твораў у Італіі.

**На здымку:** пасол Італьянскай Рэспублікі **Джан Лука Бертынета** ўручае ордэн "За заслугі" **Васілю Быкаву**.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

## Жыве сябрына "Беларусь — Бельгія"

Яе ўстаноўчы сход адбыўся першага лістапада г.г. у памяшканні Таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі. Заснавальнікі (каля сарака чалавек) — людзі розных зацікаўленняў і прафесій, у асноўным навукоўцы, літаратары, мастакі, музыказнаўцы, выкладчыкі ВНУ і сярэдніх школ, медыкі, спецыялісты ў галіне сельскай гаспадаркі і нават паліграфіі. Слова бралі дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра прафесар Адам Мальдзіс, народны мастак Арлен Кашкурэвіч, заслужаная артыстка Таццяна Мархель, кандыдат мастацтвазнаўства Вольга Дадзіёмава, урач Бараўлянскага шпіталя інвалідаў вайны Тамара Антановіч, настаўніца роднай мовы Бараўлянскай СШ Вера Герасіменка, літаратар і публіцыст Леанід Дранько і некаторыя іншыя. На сходзе прысутнічалі госці з Бельгіі, якія паабяцалі мацаваць кантакты навастворанай арганізацыі са сваёй краінай. Вёў пасяджэнне старшыня прэзідыума Таварыства дружбы Арсен Ваніцкі.

У сваіх выступленнях названыя вышэй спадары і спадарыні акрэслілі кола пытанняў, якімі павінна займацца новая сябрына і якія сёння яны ўжо здолелі б узняць уласнымі сіламі. Гэта развіццё навуковых сувязяў у галіне беларусістыкі, культурных — у галіне мастацтва і музыкі, практычных — у галіне медыцыны і сельскай гаспадаркі.

**Арлен Кашкурэвіч** стаяў за разгортванне супрацоўніцтва па лініі абмену Беларусі і Бельгіі мастацкімі выставамі і творчымі калектывамі, за супрацоўніцтва прадстаўнікоў беларускай і бельгійскай тэатральнай і музычнай культуры і за іх асабістыя кантакты. "Мы павінны лепш пазнаць іх, а яны — нас" — такі быў дэвіз гэтага выступлення, які падхапілі і іншыя.

**Адам Мальдзіс** выступаў двойчы і ўнёс шэраг канструктыўных прапаноў. Бельгія, сказаў ён, адна з тых краін у свеце, з якой Беларусь, на жаль, не мае добрых навуковых сувязяў. Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, маючы свае ячэйкі ў васемнаццаці краінах свету, не мае яе ў Бельгіі. Выступоўца падкрэсліў, што беларуска-бельгійскія сувязі могуць развівацца ў галіне беларусістыкі (можна пашукаць, напрыклад, у Бруселі архіў выдавецтва, якое ў XIX ст. рэкламавала будучае выданне Дуніна-Марцінкевіча, паколькі на Беларусі роднае слова пісьменніка было забароненае), у галіне выяўлення ўсялякага роду гістарычных і асабістых кантактаў з Бельгіяй нашых суайчыннікаў, з навязвання новых і розных па характары бельгійска-беларускіх сувязяў і знаёмстваў. Вядома, што многія знакамітыя ў свеце фінансаў, эканомікі, народнай гаспадаркі і палітыкі дзеячы, родам з Беларусі, жывуць у Бельгіі. Так, там жывуць нашчадкі князёў Радзівілаў і графаў Тышкевічаў, жывуць і беларускія габрэі.

*(Працяг на с.2.)*

*Дзеючыя асобы*

# Ягоны крыж

60-гадовы горны інжынер Міхась Казак шмат паспытаў ліха ў сваім жыцці. Не салодкім было яно для сялянскага хлопца з Еўліч пад Слуцкам. Таму і падаўся некалі ў Данецк на шахты. Але як пачалося будаўніцтва Салігорска, прыехаў дадому. А пасля гарняк-ветэран стаў сябрам БНФ "Адраджэньне" і Таварыства беларускай мовы. А таксама — актывістам Беларускага незалежнага прафсаюза.

Віктар Бабаед — лідэр гэтага прафсаюза, так ахарактарызаваў Міхася Мікалаевіча: гэта нацыянальна і сацыяльна свядомы чалавек. Вось з каго трэба браць прыклад маладым рабочым.

Так, грамадзянскай мужнасці, што ідзе менавіта ад свядомасці, Міхасю Казаку не займаць. Я ў гэтым пераканаўся, калі назіраў за ягоным удзелам у маршы пратэсту супраць сённяшняй сацыяльнай палітыкі (гэтая акцыя ладзілася БНП з 16 па 23 кастрычніка г.г. на дарозе ад Салігорска да Менска).

Не зважаючы на сталы ўзрост, Міхась Мікалаевіч, як і ягоныя маладзейшыя таварышы па гэтым пешым пераходзе, мужна вытрымаў некалькі міліцэйскіх затрыманняў, пастарункаў і судовых працэсаў.

Але свой беларускі характар ён паказаў яшчэ на адной справе.

... Шаноўныя чытачы, мусіць, памятаюць з публікацый газеты пра тое, што рэлігійныя фанатыкі мінулай зімой спілавалі памятны крыж, які за год да таго прадстаўнікі Народнага Фронту, ТБМ, Сацыял-дэмакратычнай Грамады, іншых патрыятычных партый, рухаў і грамадскіх арганізацый усталявалі ў Чырвонай Слабадзе (гістарычная назва — Вызна) у гонар палеглых тут слуцкіх паўстанцаў у 1920 годзе.

Неўзабаве пасля гэткага акта вандалізму Міхась Казак разам з кіраўніцай Салігорскай філіі ТБМ настаўніцай Марыяй Мацюкевіч ды іншымі патрыётамі Беларусі паехалі ў тое мястэчка, паднялі з зямлі крыж і схавалі памятны знак у надзейных людзей. Тады Міхась Мікалаевіч уважліва агледзеў месца злачынства супраць людзей і Бога (крыж напярэдадні яго ўсталявання асвяцілі прадстаўнікі ажно трох хрысціянскіх канфесіяў, у тым ліку Беларускі патрыяршы экзарх, мітрапаліт Менскі і Слуцкі Філарэт) і паабяцаў, што да восеньскіх Дзядоў абавязкова аднавіць гэты сціплы мемарыял.

І вось ветэран разам з сябрамі па Салігорскай арганізацыі БНФ — паэткай Нінай Ярмалінскай, Феафанам Раманоўскім і Міхасём Ждановічам наведаўся ў Чырвоную Слабаду. Праз усё мястэчка пранеслі яны святы крыж, а затым у цэнтры, у скверы пачалі нанава ўстаноўку памятнага знака.

Канешне, была трывога: раптам зноў з'явяцца падбухтораныя злым словам фанатыкі? Яны ж год таму крычалі прама ў твар беларускім патрыётам: "Крыж "няправільны", яго трэба знішчыць". І не хацелі нават слухаць тлумачэнні, што памятны знак мае форму старажытнага крыжа Ефрасінні Полацкай — праваслаўнай беларускай святой...

Міхась Казак разам са сваімі маладымі сябрамі аднаўленне памятнага знака рабілі надзейна.

— Спачатку я правёў тэхнічныя разлікі,— сказаў Міхась Мікалаевіч.— Папярэдне, канешне, з'ездзіў у Вызну са штангелем, зрабіў усе замеры. Ну, а цяперака злучалі зрэзаную частку з той, што была ўкапаная ў зямлю, акавалі месца злучэння жалезным лістом...

У час рэстаўрацыі падыходзіў участковы. Гэта ён павінен быў уратаваць памятны знак ад вандалізму. Паназіраў моўчкі дый пайшоў сваёй дарогай.

А хто з мясцовага люду цікавіўся, таму Міхась Казак казаў: маўляў, продкі тутака мае, магчыма, ляжаць разам з паўстанцамі, бо ў тыя восеньскія дні 1920 года ягоны дзед Акім загінуў ад рук не то бальшавіцкіх, не то польскіх рэквізітараў. Яны ў Акіма забіралі каня, а дзед не аддаваў, прасіў, каб "паночкі" злітаваліся над сялянскай сям'ёй, пакінулі ёй "цягло".

А яшчэ Міхась Мікалаевіч згадаў пра расстраляных у 1937 годзе маці ды бацьку як "кулацкіх памагатых". А затым было халоднае і галоднае дзяцінства і праца з малых год калгасным пастушком. Ён прагнуў вучыцца і змог гэта зрабіць — стаў горным інжынерам. Але ўвесь час хацеў даведацца пра сапраўдную гісторыю Беларусі, зразумець, чаму выпала столькі пакут яго родзічам і землякам. За ўсё трэба змагацца: і за праўдзівую беларускую гісторыю, што нярэдка пазначаецца вось такімі крыжамі, і за сваю беларускасць увогуле — мову, культуру, кажа Міхась Мікалаевіч.

— У 1959 годзе,— працягвае ён,— салігорскія ўлады мне выдалі пасведчанне аб смерці маці. Дык вось на ягоным тыльным баку было напісана: "50 капеек не браць". Я ўжо тады сказаў у ЗАГСе, што гэта была адзіная мая ільгота за ўсё жыццё, пасмяяўся так...

Гэта быў, што гаворыцца, смех скрозь слёзы. Як прызнаўся стары беларускі гарняк, магілы бацькоў клічуць не да помсты духоўным нашчадкам тых, хто змярцвяў ні ў чым не вінаватых людзей, а да таго, каб не стаў рэальнасцю яшчэ адзін дыктатарскі рэжым. Вось чаму ягоны марш пратэсту не скончыўся 23 кастрычніка.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

*Уражанні*

# Захаваем беларускую школу!

У сваім артыкуле "Разам зберажом свае", надрукаваным у "Нашым слове" за 21 жніўня г.г., у ліку чатырох школ Слуцка (з адзінаццаці наяўных), дзе ў мінулым навучальным годзе ў працэсе вучобы не перавялі на расійскую мову навучання ніводнага з пачатковых класаў, я ўпамінаў і 9-ю СШ. Яе дырэктар Іван Канстанцінавіч Місюкевіч чатыры гады таму, калі на Беларусі роднае слова пачало займаць свой законны пасаг у грамадстве, ён адзін з першых сярод калег-дырэктараў настаяў, каб традыцыйна расійскамоўная 9-я СШ (паблізу — два вайсковыя гарадкі) набыла статус беларускай. Бацькі вучняў не ўхвалілі яго прынцыповы крок, але і не грэзіліся "дойти до самого Лукашенко" ў спадзяванні, што той дапаможа адлучыць дзетак ад роднай мовы. Была надзея, што і ў новым навучальным годзе дырэктары, настаўнікі не пойдуць на "павадку" такіх бацькоў, захаваюць набытае. На жаль, спадзяванні гэтыя не зусім збыліся.

Пазваніў неяк таму ж Івану Канстанцінавічу, дырэктару 9-й СШ. Як, пытаюся, з захаваннем беларускамоўных класаў. Кепска, адказвае са скрухай у голасе ён. Бацькі з ліку былых і цяперашніх вайскоўцаў, дый бацькі-беларусы, якія забыліся на свае карані, настаялі, каб абодва першых класы былі расійскамоўнымі. Дырэктар спрабаваў пераканаць іх у памылковасці такога кроку, адумацца — не дапамагло. У аддзеле адукацыі гарвыканкама, куды званіў і заходзіў параіцца, як адшукаць найлепшае выйсце, адказалі так: не адмаўляць бацькам у іх праве на выбар той мовы навучання, якая ім падабаецца. Адчуўшы, што перашкод няма, ужо бацькі вучняў другога класа, дзе летась у першым вывучалі беларускую мову, сталі патрабаваць зрабіць яго расійскамоўным.

І мне прыпомніўся нядаўна надрукаваны ў часопісе "Полымя" верш Рыгора Барадуліна, у якім ён б'е трывогу: у краіне зноў у загоне роднае слова — як і ў 50-80-я гады. "Ды ўжо злавалі імперскіх штабоў генералы, ды ўжо фельдфебелі лезлі яго задушыць". І душаць. А настаўнікі, "нізавая" інтэлігенцыя наогул моўчкі сузіраюць на гэты наступ фельдфебеляў, якія сёння "наскае слова качаюць у друзе". Калі ў школы чародамі ідуць бацькі-беларусафобы са сваімі патрабаваннямі, то захадаў адваротнага зместу, у абарону роднага слова нешта не бачна. Нам плююць у душу, а мы маўчым, церпім!

Водступ ад роднага слова ў некаторых гарадскіх школах ідзе без абароны, настаўнікі, як той біблейскі Пілат, часцей за ўсё "умываюць рукі" перад наступленнем тых, хто адкрыта грэбуе беларускай мовай. У 10-й СШ усе 129 вучняў-першачкоў залічаны ў расійскамоўныя класы. У 11-й СШ, якая знаходзіцца зусім не ў атачэнні вайсковых гарадкоў, а ў новым жылым мікраёне, дзе беларусаў працэнтаў дзевяноста, вучні аж чатырох класаў з шасці пазбавіліся магчымасці, па настойванні бацькоў, вучыцца на роднай мове. Ніводнага беларускамоўнага першага класа не засталося ў 2-й, 5-й сярэдніх школах.

І вось сумны вынік гэтага ганебнага водступу перад "фельдфебелямі": калі летась у 24-х першых класах беларускую мову вывучала 768 дзяцей, то сёлета ў 13-ці больш як напалову меней.

Але, як кажуць, свет не без добрых людзей. Засталіся ў горадзе два "астраўкі" беларускасці — гэта 7-я і 12-я сярэдняя школы, дзе дырэктарамі Аляксандр Казючыц і Анатоль Самойлаў. Яны самі, іх настаўніцкія калектывы вытрымалі наступленне хадакоў з сумніцельнымі спісамі "желающих" загнаць у куток беларускую мову, правялі растлумачальную работу з бацькамі — і вынікі там радуюць. У 7-й СШ усе тры, а ў 12-й СШ усе шэсць першых класаў захавалі статус беларускамоўных. Але калі ў бліжэйшы час у краіне не зменяцца адносіны да роднага слова, а чыноўнікі з Міністэрства адукацыі па-ранейшаму будуць казыраць правам бацькоў на выбар мовы навучання сваіх дзяцей (у цывілізаваных краінах такое немагчыма — палічылі б за дзікунства), то ёсць пагроза, што праз два-тры гады ў Слуцку не застанецца ніводнай беларускамоўнай школы — як і ў канцы 50-х гадоў.

**Міхась ТЫЧЫНА,**
**член Слуцкай гарадской і раённай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.**
г.Слуцк.

# Жыве сябрына "Беларусь — Бельгія"

*(Працяг. Пачатак на с.1.)*

Яны ўваходзяць у Раду Еўропы, фармуюць палітычную і эканамічную думку ў свеце і могуць быць вельмі карыснымі для Беларусі. Скарынаў цэнтр такую работу фактычна ўжо праводзіць. Так, навязаны сувязі з сусветна вядомым гамеапатам Л.Клыбікам з Бруселя, а ў апошнім нумары "Кантактаў і дыялогаў" апублікавана для будучага энцыклапедычнага слоўніка навуковая біяграфія Міколы Равенскага — класіка беларускай музыкі, аўтара гімна "Магутны Божа" (дарэчы, яго дачка Вольга Мікалаеўна прысутнічала на сходзе — І.К.). Як выявілася, сіламі асобных калектываў і асобных энтузіястаў праводзіцца культурнае збліжэнне Беларусі і Бельгіі. Гэтаму служыць дзейнасць Беларускага універсітэта культуры, які абменьваецца з гэтай краінай творчымі калектывамі, а таксама прафесійнае супрацоўніцтва лекараў Тамары Антановіч і Лаўрэна Клыбіка.

**Тамара Антановіч** дапоўніла выступленне сп. Мальдзіса аповядам пра сваё наведванне Бельгіі і, у прыватнасці, сям'і Клыбіка. Паездка гэтая асвятлялася з пункту гледжання медыка. Заснавальнікі сябрыны даведаліся аб выдатных умовах лячэння і рэабілітацыі хворых (спецыяльныя ванны, ложкі, інвалідныя калляскі), якія створаны ў бельгійскіх шпіталях, а таксама пра ўтылізацыю смецця, якая праводзіцца на спецыяльных заводах (прыгадаем нашы гарады ў аблозе смецця). Дакладна вядома, што з усяго беларускага бельгійцам падабаецца найбольш нарачанскі хлеб. Клыбік, ад'язджаючы дадому, павёз з сабой ажно дваццаць буханак.

**Вольга Дадзіёмава**, якая ўзначальвае ў Беларускай акадэміі музыкі праграму "Вяртанне", нагадала, што ў Лювэнскім універсітэце вучылася некалькі дзесяткаў беларускіх юнакоў і дзяўчат, а нашы сувязі з Бельгіяй — духоўныя, душэўныя — заўважаюцца ўжо два стагоддзі. У гэтай краіне захоўваецца вялікая колькасць беларускіх матэрыялаў, якія невядома як туды трапілі. Спадарыні Вользе, напрыклад, удалося адшукаць у бібліятэцы бельгійскай кансерваторыі творы Яна Голанда, аўтара першай беларускай оперы "Агатка", пастаўленай упершыню ў XVIII ст. нясвіжскім тэатрам. Нас звязваюць папулярныя на Беларусі творы бельгійскіх кампазітараў і скрыпачоў, у якіх вучыліся і Міхал Казімір, і Міхал Клеафас Агінскія. Дадзіёмава адзначыла, што нашы музыканты ў Бельгіі заўсёды сустракаюць цёплы прыём, а на конкурсах бяруць першыя месцы. З вялікім поспехам там прайшлі і гастролі хору "Унія".

**Леанід Дранько-Майсюк** нагадаў, што ў Беларусі добра ведаюць творчасць Шарля дэ Костэра, Верхарна, таго ж Жоржа Сіменона, пісьменніка бельгійскага паходжання. На жаль, значна менш ведаюць беларускую літаратуру бельгійцы. Ім вядомы ўсяго імёны Коласа і Купалы.

Прагучала таксама цікавае выступленне ліквідатара наступстваў чарнобыльскага выбуху, доктара біялагічных навук з Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які адзначыў, што Бельгію ўсё ведаюць па выдатных дасягненнях сельскай гаспадаркі, у яе гэтаму вучыліся немцы і французы, а цяпер хацелі б павучыцца і мы.

Па прапанове А.Мальдзіса сход вырашыў даслаць прывітанне лаўрэату Нобелеўскай прэміі, былому магілёўчаніну Прыгожыну, інфармаваць беларускую амбасаду ў Брусэлі аб утварэнні сябрыны "Беларусь—Бельгія", а таксама выбраць спадарыню Антановіч яе старшынёй сябрыны. Намеснікам быў абраны Л.Дранько-Майсюк, а сакратаром — супрацоўнік Таварыства дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі Дзмітрый Хадакоў.

**Ірына КРЭНЬ.**

# Рада перакладчыкаў радзіць

У № 37 "Нашага слова" за гэты год зацікаўленыя чытачы маглі звярнуць увагу на інтэрв'ю старшыні секцыі мастацкага перакладу Саюза беларускіх пісьменнікаў Івана Чароты. Нагадаю: гаворка ішла пра аднаўленне дзейнасці пры рэдакцыі своеасаблівага клуба перакладчыкаў, каб планава і асэнсавана змяшчаць на старонках газеты ў перакладзе на беларускую мову лепшыя творы сусветнай літаратуры. Нядаўна працяг тая гаворка мела на бюро секцыі мастацкага перакладу Саюза пісьменнікаў з удзелам Івана Чароты, Міхася Кенькі, Уладзіміра Мархеля, Сяргея Панізьніка, Уладзіміра Юрэвіча ды аўтара гэтых радкоў.

Старшынствуючы на пасяджэнні І.Чарота зрабіў невялікае ўдакладненне. Ён сказаў:

— Тры гады таму, у 1994 годзе, мы, перакладчыкі, афармляліся як **рада** перакладчыкаў пры рэдакцыі. Прапаную вярнуцца да той формы нашай арганізацыі. Такім чынам мы бяром на сябе права нешта **раіць, радзіць**...

Прысутныя з гэтай думкай пагадзіліся, а старшыня секцыі працягваў:

— Істотны момант той, што мы будзем дзейнічаць пры газеце... Пытанні, якія мы сёння абмяркоўваем, для газеты, адпаведна і для чытача газеты, важныя, актуальныя. Рэдакцыя газеты магла б узяць на сябе функцыі супрацоўніцтва з практыкамі мастацкага перакладу.

У плане гаворкі, якая вялася на пасяджэнні перакладчыкаў, падкрэслівалася важнасць перакладу на беларускую мову твораў для дзяцей — як праграмных, так і твораў для пазакласнага чытання. І ці не самая адказная задача ў цяперашніх умовах для выдаўцоў — выпускаць для дзяцей масавым накладам танныя кніжкі.

Супрацоўнік выдавецтва "Юнацтва", паэт і перакладчык С.Панізьнік прэзэнтаваў новыя выданні з серыі "Школьная бібліятэка" — хрэстаматыйныя творы ўкраінскіх класікаў Лесі Украінкі і Міхайла Кацюбінскага, Петраркі, Байрана, Верлена і інш. Усяго за апошні месяц у "Юнацтве" выйшла каля дзесяці кніжак сусветнай класікі ў перакладзе на беларускую мову, і гэта не можа не радаваць.

Плануючы супрацоўніцтва з нашай рэдакцыяй, беларускія перакладчыкі не маглі не задумацца над сучасным становішчам газеты "Наша слова" ў сувязі з ініцыяваным Дзяржкамдрукам РБ аб'яднальным працэсам некаторых беларускамоўных выданняў, які закранае і нашу рэдакцыю. З вуснаў У.Мархеля тут прагучала крытыка ў адрас Сакратарыята рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны — заснавальніка газеты. На яго думку, пры адпаведнай арганізацыі працы Таварыства магло б мець грошы (хоць бы за кошт складак сяброў Таварыства) і цалкам утрымліваць сваю газету і выцягваць яе ад залежнасці ад дзяржаўнай казны.

**У.АНІСКОВІЧ.**

Падарожжы

# У госці да Багушэвіча



105 гадоў таму ў Кракаве выйшаў зборнік Ф.Багушэвіча "Дудка беларуская". 105 гадоў таму ў прадмове да яе ўпершыню была галосна абвешчана беларуская нацыянальная ідэя. Ушанаваць памяць Мацея Бурачка, падсілкавацца беларускім духам з родных мясцін беларускага песняра — такая была мэта экскурсійнай вандроўкі сяброў клуба "Беларуская хатка" з Менска. Стары Віленскі тракт праз Радашковічы, Маладзечна, Залессе, Смаргонь вёў нас да Багушэвічавых Жупранаў і Кушлянаў. Гэтым трактам не раз прыязджаў у Менск сам Багушэвіч. Што гэтая дарога была яму добра знаёмая, сведчыць прозвішча Багушэвіч, высечанае сярод мноства іншых на цікавым помніку, прысвечаным Віленскаму тракту, каля вёскі Мясата.

У цэнтры мястэчка Жупраны — адзіны на Беларусі помнік Ф.Багушэвічу. Недалёка, на могілках, знаходзіцца яго магіла. Даўно надышоў час зрабіць і ўсталяваць сапраўднае надмагілле Багушэвіча замест нізкаякаснага і безгустоўнага цяперашняга. Каля магілы песняра добрым словам мы ўспомнілі Міколу Ермаловіча, дзякуючы якому ў пасляваенны час месца пахавання Багушэвіча ўвогуле не было згублена. Прыемна было ўбачыць нанова ўстаноўленую ў Жупранскім касцёле мемарыяльную пліту з партрэтам Багушэвіча.

Найвялікшае адкрыццё чакала нас у Кушлянах, апошнім месцы жыцця песняра-беларуса. Маляўнічыя пагоркі з палямі і лесам — рэштказ былой Жупранскай пушчы, а сярод іх — цудоўны музей-сядзіба Багушэвіча, гаспадаром якога ёсць вядомы беларускі паэт Алесь Жамойцін. Сядзібны дом — ці не адзіны захаваны з канца XIX стагоддзя на Беларусі, у якім размяшчаецца музей. Да дома вядзе сцежка, па баках якой, як і пры Багушэвічу, высаджаныя яркія экзатычныя кветкі. Пад час экскурсіі па музеі ўсюды адчувалася прысутнасць Багушэвіча — у мемарыяльных пакоях ягонага дома, у залах музейнай экспазіцыі... Каштанавыя прысады, што пачынаюцца ад драўлянай капліцы ў сядзібе, прывялі нас да Лысай гары, на якой любіў пісаць свае вершы і праводзіць вольны час з сябрамі-аднадумцамі Ф.Багушэвіч. А яшчэ далей, сцежкай, абсаджанай ружамі, мы патрапілі да памятнага валуна Мацею Бурачку.

Добры прыём і цікавы аповяд Алеся Жамойціна дапамаглі нам лепей адчуць сваю сувязь з Францішкам Багушэвічам, з ягонай эпохай, увогуле з Беларуссю.

Багушэвіч заве беларусаў:
"Каб адкінуць ману, заганы,
Каб пазбавіцца спакусаў —
Прыязджайце ў мае Кушляны!"

**Ігар ГАТАЛЬСКІ.**

**Фота В.ЛОЙКІ**: Помнік Багушэвічу ў Жупранах.

Тлумачальны палітычны слоўнік

# Рэферэндумная дэмакратыя

*(Працяг.)*

## 2. Сусветны вопыт

Па спосабу правядзення рэферэндумы бываюць **абавязковыя і факультатыўныя.**

Абавязковымі называюць такія рэферэндумы, калі заканадаўствам краіны рэгламентавана, што пэўны законапраект можа быць прыняты *толькі шляхам рэферэндуму.*

Факультатыўнымі з'яўляюцца рэферэндумы, правядзенне якіх абумоўлена *ініцыятывай* суб'екта права (групы грамадзян, парламента, прэзідэнта).

Незалежна ад спосабу правядзення рэферэндумы бываюць:

— канстытуцыйныя, калі на галасаванне выносіцца праект канстытуцыі, або папраўкі да канстытуцыі;

— заканадаўчыя — калі на галасаванне выносіцца праект закона;

— кансультатыўныя — калі на галасаванне выносіцца прынцып, ад адабрэння або адхілення якога залежыць палітыка органаў улады.

У большасці заходніх дзяржаў канстытуцыйны рэферэндум з'яўляецца абавязковым. Гэта значыць, што без народнага галасавання ў такіх краінах, як Францыя, Іспанія, Данія, Ірландыя і інш., папраўкі ў Канстытуцыю ўвогуле не могуць быць прынятыя. На гэтым фоне сёлетняя ініцыятыва Прэзідэнта Беларусі падаецца як адпавядальная лепшым традыцыям заходняй дэмакратыі. Але гэта не так, механізму прыняцця канстытуцыі ці канстытуцыйных паправак непасрэдна і толькі народам не існуе ў краінах, якія мы лічым дэмакратычнымі. Фактычна, народным галасаваннем (рэферэндумам) зацвярджаюцца папраўкі да канстытуцыі, прынятыя парламентам. Менавіта гэтым дасягаецца парытэт паміж рэпрэзентатыўнай (прадстаўнічай ці парламенцкай) і рэферэндумнай формамі народаўладдзя. Менавіта гэта забяспечвае стабільнасць палітычнай сістэмы і абмяжоўвае магчымасць выкарыстання рэферэндуму палітычнымі сіламі для дасягнення сваіх інтарэсаў.

На практыцы гэта рэалізуецца наступным чынам.

У Даніі папраўкі да канстытуцыі спачатку адабраюцца фалькетынгам простай большасцю галасоў, пасля чаго парламент распускаецца і абвяшчаюцца перавыбары. Новы склад фалькетынгу павінен зацвердзіць праект паправак, толькі пасля гэтага ён выносіцца на рэферэндум і лічыцца прынятым, калі большасць удзельнікаў галасавання, але не менш 40% усіх выбаршчыкаў краіны, падтрымае рашэнне фалькетынгу.

Аналагічная працэдура існуе ў Іспаніі з той толькі розніцай, што зацвярджэнне праекта змяненняў канстытуцыі ажыццяўляецца большасцю ў дзве трэці кожнай з палат парламента.

У Ірландыі і Францыі канстытуцыйны рэферэндум прызначаецца без перавыбараў, аднак толькі пасля адабрэння законапраекта ў парламенце. У Францыі, пры гэтым, існуе магчымасць абысціся без рэферэндуму, калі прэзідэнт прыме рашэнне накіраваць законапраект аб унясенні змяненняў у тэкст канстытуцыі на разгляд Кангрэса (сумеснага пасяджэння абедзвюх палат парламента). Законапраект будзе прыняты, калі за яго прагаласуе тры пятых парламентарыяў, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

Канстытуцыйны рэферэндум у Італіі з'яўляецца кансультатыўным і пацвярджаючым.

У Бельгіі і Галандыі рэферэндумы ўвогуле не прадугледжаны заканадаўствам. У Злучаных Штатах Амерыкі не прадугледжаны федэральныя рэферэндумы, і могуць праводзіцца толькі мясцовыя.

Такім чынам, ні ў адной дэмакратычнай краіне канстытуцыйны рэферэндум не адбываецца без папярэдняга разгляду і, адпаведна, прафесійнай экспертызы вышэйшых заканадаўчых органаў дзяржаўнай улады. Ні ў адной дэмакратычнай краіне ініцыятыва правядзення канстытуцыйнага рэферэндуму не належыць выканаўчай уладзе і з'яўляецца цалкам прэрагатывай заканадаўчай улады. Гэта лагічна вынікае з фундаментальнага прынцыпу падзелу ўлады, гэта адлюстроўвае трагічны гістарычны вопыт краін, якія парушылі гэты прынцып і дазволілі выканаўчай уладзе ўзяць на сябе функцыі і паўнамоцтвы заканадаўчай, як гэта было ў Германіі 30-х. Як гэта спрабуюць зрабіць у Беларусі 90-х. Амаль стагоддзе таму немец Бісмарк папярэджваў: "Толькі дурні вучацца на сваіх памылках, разумныя вучацца на чужых". Міжнародная супольнасць зрабіла высновы з гісторыі і таму так рашуча выступае супраць беларускага канстытуцыйнага рэферэндуму.

Дык ці можа прэзідэнт, кіраўнік дзяржавы, параіцца з народам? Можа. І заканадаўства многіх краін надае права ініцыятывы рэферэндуму выканаўчай уладзе. Аднак **толькі заканадаўчага** ці **кансультатыўнага** рэферэндуму. У прыватнасці, канстытуцыя Французскай Рэспублікі, на якую любяць спасылацца дарадцы нашага Прэзідэнта, надае паўнамоцтвы для вынясення законапраекту на рэферэндум прэзідэнту Францыі. Аднак, па-першае, гэта тычыцца толькі законапраектаў, якія адпавядаюць дзеючай канстытуцыі і не прадугледжваюць змянення тэкста канстытуцыі. Па-другое, пры гэтым неабходна выканаць тры ўмовы: абедзве палаты парламента павінны быць сабраныя на сесію; прапанова па правядзенні рэферэндуму была накіравана прэзідэнту ўрадам краіны або парламентам; гэта прапанова павінна быць надрукаваная ў афіцыйным друкаваным органе. І французскі прэзідэнт ніколі не скардзіцца, што яму "мешают посоветоваться с народом".

Прыкладна такія ж працэдурныя абмежаванні існуюць у іншых краінах, аднак вышэйсказанага дастаткова, каб вызначыць агульны фон, на якім развіваецца рэферэндумная дэмакратыя ў Беларусі.

## 3. Практыка прымянення Закона аб рэферэндуме ў Беларусі

Закон "Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь" быў прыняты Вярхоўным Саветам Беларускай ССР 13 чэрвеня 1991 г. і ўступіў у дзеянне з 1 студзеня 1992 г. З таго часу ён застаецца нязменным, нягледзячы на тое, што многія яго палажэнні супярэчаць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, якая была прынята ў 1994 г. У верасні гэтага года Вярхоўны Савет прыняў папраўкі да Закона аб рэферэндуме, якія прыводзілі яго ў адпаведнасць з дзеючай Канстытуцыяй, аднак яны не былі падпісаныя Прэзідэнтам і ў дзеянне не ўступілі.

Як падавалася ў той час, быў зроблены значны крок на шляху да дэмакратыі, да сапраўднага народаўладдзя. Сапраўды, у прэамбуле закона запісана: "У Беларускай ССР народ ажыццяўляе дзяржаўную ўладу як праз Саветы народных дэпутатаў, так і непасрэдна. Адной з важнейшых форм ажыццяўлення народам дзяржаўнай улады з'яўляецца рэферэндум". А ў артыкуле 1 гаворыцца: "Рэферэндум разумеецца як спосаб прыняцця грамадзянамі Беларускай ССР народным галасаваннем рашэнняў па найбольш важных пытаннях дзяржаўнага або грамадскага жыцця або выяўлення думкі грамадзян па гэтых пытаннях". Вось такая супер-дэмакратыя была нам абяцана, і мы ў яе паверылі, тым больш што права ініцыятывы надавалася грамадзянам непасрэдна. Аднак з таго часу дзеянне Закона аб рэферэндуме ініцыіруецца ў Беларусі ўжо трэці раз, **і ні адно яго прымяненне не прынесла карысці беларускаму народу.**

Першае прымяненне Закона аб рэферэндуме адбылося адразу пасля ўвядзення яго ў дзеянне. У канцы снежня 1991 года апазіцыя БНФ у Вярхоўным Савеце выступіла з заявай, што, выкарыстаўшы ўсе парламенцкія формы змагання з камуністычнай большасцю ў Вярхоўным Савеце, БНФ прыступае да фармавання ініцыятыўнай групы грамадзян для збору подпісаў з патрабаваннем правесці рэферэндум па пытанні аб датэрміновым роспуску Вярхоўнага Савета і новых выбарах. Ужо 12 студзеня 1992 года заява аб стварэнні такой групы была пададзеная ў Цэнтральную выбарчую камісію. 13 лютага пытанне і група былі зарэгістраваныя, нягледзячы на адмоўнае стаўленне ўладаў, у тым ліку і ЦВК, і наяўнасць адмоўнага заключэння дзвюх камісіяў Вярхоўнага Савета. Гэта была першая значная перамога, яна ўмацавала аўтарытэт ініцыятараў і не дазволіла здзейсніць інфармацыйную блакаду кампаніі. Потым на працягу двух месяцаў за ўмовах вельмі моцнага супрацьстаяння з уладамі праводзіўся збор подпісаў. 14 красавіка звыш 442 тыс. подпісаў, амаль на 100 тыс. больш, чым патрабавалася закон, былі разам з заключным актам перададзеныя ў ЦВК. Там яны на працягу месяца правяраліся з прыцягненнем супрацоўнікаў апарату Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў. 14 траўня пасля ўсіх праверак ЦВК перадала подпісы і заключны акт у Вярхоўны Савет, канстатуючы, што ўсе ўмовы для ініцыявання рэферэндуму выкананыя, і застаецца толькі прызначыць дату рэферэндуму.

Праз паўгода ваганняў Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб забароне гэтага рэферэндуму, прадэклараваўшы пры гэтым аб самароспуску праз год, што аднак выканана не было, наадварот, паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета былі падоўжаныя яшчэ на год звыш канстытуцыйнай нормы.

**Уладзімір АНЦУЛЕВІЧ, Вера ЧУЙКО.**

*(Працяг будзе.)*

Беларускі кнігазбор




# Яркая зорка

Гісторыя нашай культуры, літаратуры, як і гісторыя вялікай нашай краіны яшчэ не напісана. Мы толькі пачынаем збіраць па лістку, па крапельцы, па каменьчыку скарбы, створаныя нашымі таленавітымі продкамі. І пра тое, што наша літаратурная спадчына сапраўды багатая, маюць намер сказаць стваральнікі Міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор", закладзены летась у Менску. Ягоным ініцыятарам і прэзідэнтам стаў вядомы паэт, празаік, літаратуразнаўца, кандыдат гістарычных навук Кастусь Цвірка. Ён жа склаў і планкаталог будучага збору, які папярэдне налічвае 180 тамоў. Пэўна ж, "Беларускі кнігазбор" будзе пашыраны. Верагодна, асобныя тамамі могуць выйсці творы, якія зараз злучаны ў адзін, верагодна, што цягам часу будуць знойдзены невядомыя дагэтуль або згубленыя творы. Знамянальна, што ў плане-каталогу пазначаны ў першай серыі: "Мастацкая літаратура XIX стагоддзя (пад нумарам 2), том: Вікенці Равінскі. "Энеіда навыварат". Канстанцін Вераніцын. "Тарас на Парнасе..."

А ўпэўненасць, што планы Міжнароднага фонду спраўдзяцца, з'явілася разам з першым томам "Беларускага кнігазбору", што выйшаў з друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку".

Том заслугоўвае добрага слова сама перш культурай выдання: і пераплёт, прыдуманы спецыяльна для "БК", і папера, і шрыфт, і вёрстка сцвярджаюць, што нат у наш час можна выдаваць беларускія кніжкі ды яшчэ якія! А ўжо змест тома! Шчыры дзякуй і спору ў працы укладальніку, перакладчыку польскамоўных твораў Яна Чачота, аўтару прадмовы і каментараў у адной асобе — Кастусю Цвірку!

Яркай зоркай Беларускага адраджэння назваў ён філамата, сябра Адама Міцкевіча ды рэдактара і выдаўца ягоных твораў, мовазнаўца, паэта і публіцыста — Яна з Мышы. Упершыню шырокае кола чытачоў (наклад першага тома БК 4000 асобнікаў) зможа пазнаёміцца з Чачотавымі шэдэўрамі: вершамі, баладамі і "спевамі пра даўніх ліцвінаў". Гэтыя спевы — паэтычная гісторыя старажытнай Беларусі.

А ці ўсе ведалі, што ў 20-х гадах мінулага стагоддзя жыў паэт, які пісаў навуковыя артыкулы пра асаблівасці "славяна-крывіцкай мовы", абдумваў правапіс нашай мовы, тлумачыў значэнні крывіцкіх прыказак і прымавак? Цяпер мы можам з гонарам назваць гэтага нашага земляка — Ян Чачот.

**З.СІЦЬКА.**

З нагоды

# Скарынаўцам і "сцены дапамагаюць". А дзяржава?

*Нацыянальнаму навукова-асветнаму цэнтру імя Францішка Скарыны споўнілася пяць гадоў. За малы тэрмін многае зроблена. Супрацоўнікі нават жартуюць, што ім дапамагаюць сцены, паколькі іх стары будынак па Рэспубліканскай вуліцы сталіцы да вайны займаў славуты Інстытут беларускай культуры. Вядома, што сёння Цэнтр добра абжыў адну з дзялянак беларускай культуры, паступова працуючы на яе пашырэнне на Бацькаўшчыне і за яе межамі. Спецыфіка работы паважанай установы і стала прадметам размовы нашага карэспандэнта з яе дырэктарам, прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, прафесарам Адамам Мальдзісам.*

**— Адам Восіпавіч, я ведаю, што Вы былі ініцыятарам стварэння Навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны. Як гэта адбылося?**

— Ідэя ўтварэння такога нацыянальнага асяродка ў нас узнікла на хвалі 500-годдзя нашага славутага першадрукара Скарыны і засноўвалася яна на тым, што ў большасці славянскіх краін такія асяродкі ўжо існуюць. У Балгарыі гэта Нацыянальны цэнтр імя Кірылы і Мяфодзія, у Славакіі і Сербіі — Маціца славацкая і Маціца сербская. "Маціца" тут ужыта ў сэнсе маці, карміцелькі. У дадзеным выпадку ставілася мэта стварыць такі асяродак, які не толькі будзе вывучаць і абагульняць традыцыі нацыянальнага пісьменства, нацыянальнай культуры, займацца беларусазнаўствам у шырокім сэнсе слова, гісторыяй беларускай дыяспары, але адначасова і садзейнічаць пашырэнню нашай культуры сярод іншых народаў і ў іншых краінах, што для Беларусі асабліва важна. Бо прызнаемся шчыра: нашу краіну не дужа ведаюць у свеце. Колькі разоў нават славянскія дзеячы — з Харватыі, са Славеніі — пыталіся ў мяне: "Беларусь — гэта дзе: да Урала ці за Уралам?" "Беларусь — гэта ў Еўропе ці ў Азіі?" Мы самі вінаватыя тут у многім, таму што ў іншых краінах добра разумеюць: імідж краіны, гонар краіны — заўсёды аплачваецца. Скажыце, хто будзе ўкладваць грошы ў нікому невядомую краіну? Таму для нас вельмі важна, як мы прысутнічаем у свеце, а калі не прысутнічаем, скажам, у некаторых рэгіёнах, то чаму. Як высветлілася, часцей за ўсё па свайму нядбайству. Бо прысутнічаць — гэта значыць, актыўна папулярызаваць, пашыраць інфармацыю пра сваю краіну, пашыраць у свеце сваю кніжку. А што мы сёння маем? Паспрабуйце купіць беларускае выданне ў Польшчы ці ў Расіі, паспрабуйце падпісацца на гэтае выданне ў Латвіі або ў Англіі. Мы сталі настолькі лянівымі, непрактычнымі, нядбайнымі, што нават не хочам элементарна зарабляць грошы на сваёй жа кніжцы. Да нас часта звяртаюцца іншаземцы і просяць: дзеля Бога, падпішыце нас на беларускае выданне, прышліце нам тыя ці іншыя беларускія кніжкі. Мы спрабавалі аформіць падпіску праз Менскую пошту, праз Белкнігу, а там нам сказалі: "Самі купляйце і самі пасылайце!" У той жа час у Мюнхене адзін прыватны магазін скупляе ў нас за бясцэнак кнігі, а затым прадае вучоным іншых краін па найвышэйшай цане. Таму што цікавасць да Беларусі ў свеце ўсё ж існуе, толькі яна не задавальняецца афіцыйным шляхам.

**— Хто апякуецца Цэнтрам?**

— І тут у нас атрымалася не так, як у добрых людзей. За мяжой нацыянальная каштоўнасць такіх Цэнтраў добра ўсведамляецца грамадствам і ўрадам. Там яны знаходзяцца пад патранатам Рады міністраў. Мы ж знаходзімся пры Міністэрстве адукацыі і навукі РБ. Я не хачу гэтым падкрэсліць, што міністэрства нас крыўдзіць. Наадварот, яно ўсяляк нам спрыяе, аднак належным чынам прафінансаваць не можа.

**— Цэнтр фінансуецца дрэнна?**

— Ён фінансуецца без уліку нашай спецыфікі. Не ўлічваецца, што мы павінны мець грошы на пашырэнне беларускай культуры ў свеце, на распаўсюджванне нашых выданняў у рэспубліцы і за яе межамі. Нам прысылаюць з розных краін унікальныя выданні, якіх не знойдзеш ні ў адной бібліятэцы Беларусі (зноў жа з-за адсутнасці валюты), а мы ў адказ не можам паслаць свае. А чаму? Таму, што на набыццё кніг для нашай бібліятэкі мы не маглі атрымаць ніводнага дзяржаўнага рубля.

**— У чым спецыфіка вашай працы ў адрозненне, скажам, ад Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"?**

— Згуртаванне "Бацькаўшчына" — грамадская арганізацыя, якая ў адрозненне ад нас не мае магчымасці праводзіць навуковыя даследаванні. Мы ж гэта робім, а ў дадатак збіраем архіўныя матэрыялы, кнігі, перыёдыку, выдадзеныя за мяжой.

**— У свой час прымалася дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце". Што з ёй?**

— Яна прымалася, аднак зноў жа пад яе мы не атрымалі ні рубля. У адпаведнасці з ёю мы павінны былі падрыхтаваць энцыклапедычны даведнік пра беларусаў замежжа, абсталяваць музей "Беларусы ў свеце".

**— Дарэчы, музей у вас ёсць.**

— Музей працуе, але ўсё, што ў ім сабрана, сабрана на грамадскіх пачатках і аформлена вельмі сціпла, бо зноў жа ўсё рабілася на адным энтузіязме. Будзем спадзявацца, што з ажыццяўленнем новай дзяржаўнай праграмы мы зможам быць вельмі карыснымі для Беларусі і для беларускага замежжа.



**— Значыць, распрацавана яшчэ адна праграма? У чым яе задачы?**

— Пашыраць інфармацыю пра Беларусь у свеце. Яна распрацоўвалася пры нашым непасрэдным удзеле. Мы падавалі свае прапановы ў міністэрствы адукацыі і навукі, замежных спраў, культуры. Праграма павінна была ўжо дзейнічаць у другім паўгоддзі.

**— Дык яна ўжо дзейнічае?**

— У дачыненні да нас пакуль што не дзейнічае. Відаць, таксама з-за фінансавых цяжкасцяў.

**— Раскажыце, калі ласка, пра структуру Цэнтра.**

— У нас чатыры аддзелы: беларусазнаўства на чале з Захарам Шыбекам, гісторыі і тэорыі культуры на чале з доктарам філасофскіх навук Уладзімірам Конанам, навуковай тэрміналогіі на чале з доктарам філалагічных навук Генадзем Цыхуном. Чацвёрты аддзел — гэта банк інфармацыі па грамадскіх навуках, які дазваляе назапашваць інфармацыю па ўсіх праблемах, якія распрацоўваюцца і ўяўляюць цікавасць для вучоных — сваіх і замежных. Мы закладваем у камп'ютары картатэку па гісторыі мовы, па тэрміналогіі, фармуем дасье з выразкамі, у тым ліку і з "Нашага слова", іншую інфармацыю.

Інфармацыя камплектуецца па наступных напрамках: гуманітарныя навукі, персаналіі беларускіх дзеячаў, узаемадзеянні з іншымі краінамі і народамі, краязнаўства (па Беларусі). Толькі ў нас сёння можна атрымаць інфармацыю пра міжнацыянальныя сувязі паміж беларусамі і іншымі народамі.

**— Нашых чытачоў асабліва цікавіць аддзел тэрміналогіі.**

— Гэты аддзел сабраў энтузіястаў з розных галін мовазнаўства, аднак шырока разгарнуць даследчую работу ён не можа, бо няма належнага фінансавання дзяржаўнага, а дабрачынцы-спонсары перавяліся. Падрыхтаваныя да друку матэрыялы па дзвюх міжнародных тэрміналагічных канферэнцыях ляжаць мёртвым грузам. Калі ўвогуле гаварыць пра дасягненні і вынікі работы Цэнтра, то да іх перш за ўсё адносіцца выданне кніг. Пры ўсіх фінансавых цяжкасцях мы выдаём штогоднік "Беларусіка — Alboruthenica", які прысвячаецца канкрэтным тэмам, ну, скажам, фарміраванню нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Такія зборнікі мы выдалі па некалькіх міжнародных канферэнцыях, па Маладзечанскай, па Гродзенскай, на якой разглядалася культурнае памежжа Беларусі з Украінай, Польшчай і Летувой, па беларуска-яўрэйскай канферэнцыі, на якой мы разглядалі нашы культурныя кантакты, і па беларуска-амерыканскай канферэнцыі. Сёлета правялі беларуска-нямецкі "круглы стол" пра нашы грамадска-культурныя ўзаемадзеянні (мінулае, сучаснасць, перспектывы). Зборнік выдадзены. Падрыхтаваныя да друку матэрыялы Другога міжнароднага кангрэса асацыяцыі беларусістаў "Беларусь паміж Усходам і Захадам", які адбыўся ў мінулым годзе. Акрамя таго, па меры магчымасці мы выдаём літаратуру па беларусазнаўству і па вяртанні нашых нацыянальных каштоўнасцяў на Бацькаўшчыну. У выдавецтва ўжо здадзены зборнік "Вяртанне-3", які змяшчае шмат цікавых дакументаў. Дарэчы, гэтую справу мы робім разам з Фондам культуры. Наладжаны таксама выпуск бюлетэня "Кантакты і дыялогі", у якім бяруць слова замежныя беларусісты. А ўсяго мы выдалі каля 20 кніжак. Гэта толькі малая доля таго, што маглі б выдаць, калі б мелі грошы. Так, у нас яшчэ ляжаць падрыхтаваныя да друку матэрыялы міжнароднай канферэнцыі, прысвечанай Уладзіміру Караткевічу, матэрыялы Трэцік карэліцкіх чытанняў, прысвечаных Яну Чачоту, чытанняў, прысвечаных Іосіфу Гашкевічу — першаму консулу Расіі ў Японіі. У канферэнцыі гэтай прынялі ўдзел вучоныя з Беларусі, Польшчы, Расіі і Японіі.

**— Скажыце, а тое, што выйшла ў свет, хто прафінансаваў?**

— Мы знаходзілі зацікаўленых асоб, што патрабавала неверагодных высілкаў.

**— Якім Вам бачыцца выйсце з гэтай сітуацыі?**

— Выйсце мне бачыцца ў спалучэнні бюджэтнага дзяржаўнага фінансавання з прыватным прадпрымальніцкім. Толькі як гэта можа выглядаць на справе, сказаць мне цяжка. Пакуль што мы спалучаем рэзервы нашага Цэнтра з рэзервамі Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, якая сёння налічвае прыблізна 700 вучоных з 23 краін, людзей у асноўным небагатых.

**— Вернемся да музея. Як у ім усё ж ідуць справы?**

— Музейная экспазіцыя "Беларусы ў свеце" размяшчаецца ў зале, дзе даўней адбываліся пасяджэнні Інбелкульта, што нас да многага абавязвае. У экспазіцыі выстаўлена ўсё тое, што нам ахвяравалі суайчыннікі — штосьці прыдбаць самі мы не змаглі. Свежыя прыклады: ураджэнец Гродзеншчыны мастак Ян Кузьміцкі перадаў са Швецыі сваю карціну і скульптуру; фармацэўт Лаўрэн Клыбік з Бельгіі ахвяраваў музею нацыянальны беларускі строй, у якім выступаў на канцэртах беларускага хору, кіраўніком якога быў вядомы кампазітар Мікалай Равенскі; яшчэ адна суайчынніца з Бельгіі Зоя Смаршчок наведала наш Цэнтр і перадала музею альбом са здымкамі, якія адлюстроўваюць жыццё тамтэйшых беларусаў. Ад былой наваградчанкі Тамары Стагановіч з Амерыкі мы атрымалі 17 яе твораў, а ад другой мастачкі, Галіны Русак — два творы жывапісу ("Ой, Нёман мой, Нёман" і "Слуцкія ткачыхі"). Часта паступаюць з замежжа рукапісы, кнігі, перыёдыка. Тое-сёе для музея атрымліваем і ад жыхароў Беларусі. Гэтыя матэрыялы часткова выкарыстоўваюцца пры напісанні біяграфій суайчыннікаў для энцыклапедычнага даведніка, старонкі якога зараз змяшчаюцца ў "Кантактах і дыялогах". Да слова, наш архіў папаўняецца шпарка за кошт беларускіх арганізацый і прыватных асоб. У фондасховішчы мы ўжо маем дзесьці 20 індывідуальных фондаў і адзін агульны. Завяршаючы гаворку пра музей, адзначу, што маем вялікі клопат са стэндамі, якія не адпавядаюць міжнародным стандартам. Нас падвёў адзін беларускі прадпрымальнік, паабяцаўшы прафінансаваць заказ на фабрыцы. Стэнды мы заказалі, заказ пацягнуў на мільёнаў семдзесят, а атрымалі мы ад нашага дабрадзея ўсяго дзесяць мільёнаў, таму пытанне абсталявання музея павісла ў паветры.



**— І ўсё ж прадстаўнікі прыватнага бізнесу вам дапамагаюць?**

— Раней нам дапамагалі банкі і фірмы, напрыклад, "Магнатбанк", "Дайнова". Цяпер ім самім цяжка жывецца.

**— А замежныя фонды, арганізацыі?**

— Нас падтрымліваў Фонд Сораса: фінансаваў тэматычныя канферэнцыі з наступным выданнем матэрыялаў па іх. Такі шлях распрацоўкі праблем сёння найбольш плённы і рацыянальны. Ён абыходзіцца танней, чым даследаванне праблемы сіламі свайго калектыву, калі грошы на яе фінансаванне "выбіваюцца" ў дзяржавы.

**— Гэта ў вас называецца "пераадольваць ранейшыя стэрэатыпы і прывыкаць працаваць у новых умовах"?**

— Можна сказаць, так. Мы ўвесь час імкнёмся знаходзіць кантакты з нацыянальнымі цэнтрамі і ўстановамі — а іх на Беларусі каля дваццаці, а таксама з зацікаўленымі арганізацыямі замежжа, напрыклад, з ЮНЕСКО. Ад гэтай Камісіі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях асветы, навукі і культуры нам ужо выдзелены грошы на міжнародны сімпозіум — якраз на рэстытуцыю нацыянальных каштоўнасцяў.

**— Што плануеце на бліжэйшы час?**

— Пытанне вельмі балючае. Калі раней мы маглі з пэўнай доляй упэўненасці планаваць работу на год, то цяпер, у гэты непрадказальны час, нават на тры месяцы наперад з цяжкасцю плануем. Фінансаванне змяншаецца, і хоць тэма актуальная, а выканаць яе цяжка.

**— А калі гаварыць пра магістральныя напрамкі работы?**

— Збіраемся шырока распрацоўваць тэму "Беларускае замежжа". Работа разлічана на гады. Пачалі мы яе з падрыхтоўкі даведніка пра беларусаў — дзеячаў розных часоў і ў розных краінах,— якія ўнеслі свой уклад у развіццё сусветнай навукі, культуры, эканомікі, дзяржаўнага будаўніцтва, вызваленчага руху і якія вартыя нашай памяці. Дзеля чаго збіраем літаратуру, рукапісныя крыніцы, а апрацаваныя біяграфіі дзеячаў публікуем у "Кантактах і дыялогах" пад назвай "Старонкі будучага энцыклапедычнага даведніка". Другі магістральны напрамак — распрацоўка навуковай тэрміналогіі. Думаем таксама аб падрыхтоўцы гісторыі духоўнай і матэрыяльнай культуры Беларусі, якіх у нас няма. Дарэчы, па гэтай неабдымнай тэме мы падрыхтавалі да друку том "Гісторыя праваслаўя ў дакументах і матэрыялах", выданне якога затрымліваецца з-за недахопу фінансавання, хоць, калі падумаць, дык і міністэрствам, і Вярхоўнаму Савету РБ патрэбна інфармацыйнае забеспячэнне, асабліва ў галіне культуры і адукацыі.

Яшчэ скажу, што мы абмежаваны ў сваёй рабоце нестабільнасцю кадраў, паколькі не можам даць сваім супрацоўнікам ні кватэры, ні добрай зарплаты. Ад нас пайшоў, напрыклад, прафесар Рагойша, які распрацоўваў тэму "Прысутнасць беларускай культуры ў свеце". Пайшоў ад нас і Алесь Жлутка, адзін, бадай, у Беларусі сапраўдны лацініст. Застаюцца самыя стойкія. Думаю, што калі б Уладзіміру Конану зусім не плацілі зарплаты, ён усё роўна працаваў бы, таму што сапраўдныя вучоныя-энтузіясты без працы жыць не могуць. А я свой сціплейшы калектыў — нас усяго чалавек трыццаць пяць — увесь час арыентую вось на што: тое, што намі зроблена, напісана, выдадзена,— застаецца.

**Распытвала І.КРЭНЬ.**

**На здымках:** Сустрэча сяброў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў у Гародні.

Пасол Ізраіля ў Беларусі **Ільяху Валк** уручае **Адаму Мальдзісу** пераклад Біблії, зроблены ў габрэйскім асяроддзі ў часы Скарыны (Вільня).

# Кола сям'і

*Масару ІБУКА*

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

**Парадак дня развівае адчуванне часу**

Наш час, у адрозненне ад майго дзяцінства, гэта час тэлебачання. Для сучаснага дзіцяці жыццё без тэлебачання няўяўнае. Таму бацькам мімаволі даводзіцца глядзець перадачы, якія глядзяць іх дзіця, каб не згубіць з ім кантакту.

Тэлебачанне выконвае ролю гадзінніка ў жыцці дзіцяці, паколькі ў яго яшчэ няма адчування часу. Кожная праграма асацыіруецца ў яго з якой-небудзь падзеяй — тата пайшоў на працу, тата прыйшоў з працы, час ісці спаць і г.д. Рэгулярнасць тэлевізійных праграм выпрацоўвае ў яго адчуванне часу.

Звычайна лічыцца, што маленькае дзіця жыве толькі сённяшнім днём і для яго не існуе паняццяў "мінулае" і "будучае". Прыблізна да двух з паловай гадоў, калі дзіця ўжо размаўляе, яно пачынае разумець, што такое "да", "пасля", "учора" і "заўтра". Іншымі словамі, пакуль дзіця не пачынае разумець мовы, у яго няма адчування часу. Аднак практыка паказвае, што немаўля ўсё-ткі ўсведамляе, што такое цяперашняе, будучае і мінулае дзякуючы тэлевізійным праграмам, якія паўтараюцца.

Строгая рэгулярнасць тэлевізійных праграм дакладней, чым падзеі сямейнага жыцця, такія, як снеданне, абед, прыход бацькі з працы. Тэлевізар можа саслужыць добрую службу ў арганізацыі распарадку дня дзіцяці. Неабходна вытрымліваць строгі рэжым не толькі для таго, каб прывіць яму добрыя манеры, але і развіць у яго адчуванне часу.

Некаторыя маці вучаць дзяцей пазнаваць час па гадзінніку перш, чым дзеці навучацца лічыць. Дзіця не разумее значэння стрэлак, таму дарэмна паказваць яму на стрэлкі і казаць: "Восем гадзін, час ісці спаць". Дзіця ідзе спаць не таму, што восем гадзін, а таму, што зрабілася цёмна, і таму, што яму хочацца спаць. Рэгулярны распарадак дня дазваляе выпрацаваць у дзіцяці абстрактнае адчуванне часу. Сам гэты распарадак замяняе дзіцяці гадзіннік.

**Новыя тэлевізійныя праграмы дапамагаюць дзіцяці правільна размаўляць**

Адна маці казала мне, што яе двухгадовы сын вучыўся правільна размаўляць, калі слухаў радыё і тэлепраграмы.

Вы, магчыма, скажаце, што няма сэнсу дазваляць дзіцяці слухаць тое, чаго яно не разумее. Але яму зусім неабавязкова ўсё разумець, галоўнае, каб у яго выпрацавалася звычка завучваць словы з правільнымі націскамі, інтанацыяй і вымаўленнем.

Непісьменная мова і дрэннае вымаўленне — прадукт асяродку, у якім расце дзіця. Асяродак аказвае на нашу свядомасць невынішчальнае ўражанне незалежна ад нашай волі, і яго нічым пасля не сцерці. Калі ў дарослага ёсць нейкія асаблівасці маўлення, ён амаль заўжды перадае іх дзіцяці, якое пасля перадасць сваяму дзіцяці. Такім чынам перадаюцца з пакалення ў пакаленне ўсе няправільнасці і парушэнні ў мове.

Калі правільнае маўленне трывала ўвойдзе ў свядомасць дзіцяці, яно зможа пасля пазбегнуць уплыву жаргонаў, якімі перапоўненыя сродкі масавай інфармацыі, а ўжо калі будзе карыстацца імі, дык без наступстваў для сваёй мовы.

### 2. ВЫХАВАННЕ ХАРАКТАРУ Ў МАЛЕНСТВЕ

**Музычная гармонія лепш за ўсё засвойваецца ў раннім дзяцінстве**

У фільмах часта паказваюць, як сям'я ці група сяброў, захопленых сумеснымі спевамі, аргнізуюць свой вольны час. Простыя сяляне, якія не маюць вышэйшай адукацыі, з задавальненнем спяваюць у хоры, і іх галасы гучаць меладычна і сугучна. Калі дзіця слухае такое выкананне, яно навучаецца музычнай грамаце не з асобных нотаў, а адразу з цэлых сугуччаў. Гэта дапамагае яму ўсвядоміць розніцу між гукамі пры іх супастаўленні. Дзіцяці лягчэй зразумець тое, што мае пэўную структуру. Камбінацыі гукаў дапамагаюць яму інтуітыўна адчуць узаемаадносіны гукаў і індывідуальныя якасці кожнага гука. Дасканалы слых нельга выпрацаваць у дарослага, але можна ў маленькага дзіцяці, калі даць яму правільную музычную адукацыю.

*(Працяг будзе.)*

*Ваша сядзіба*

## Тэхналогія агародніцтва Д.Мітлайдэра (ЗША)

*(Працяг.)*

Такім чынам, толькі што падрыхтаваную градку з яшчэ вільготнай глебай вы пачалі засяваць. Пасеў (пасадку) праводзяць уздоўж унутранага боку борціка, адступіўшы 3 см ад асновы. Сяўба (пасадка) выконваецца ўздоўж аднаго (двух) борцікаў у залежнасці ад віду культуры. Напрыклад, бульба, буракі, морква засяваюцца з двух бакоў, а вось кабачкі, памідоры лепш размяшчаць з аднаго боку. Глыбіня пасеву па ТМ складае 2,5 дыяметра насення. Адлегласць паміж раслінамі ў радзе залежыць зноў-такі ад культуры. Напрыклад, бульба садзіцца на адлегласці 30 см каліва ад каліва, памідоры — 70 см і г.д. ТМ рэкамендуе большыню культур садзіць расадай, апроч морквы, рэдзькі, рэпы. Гэта дазваляе за адзін сезон збіраць па два ўраджаі. На адной градцы садзіцца адна культура, каб потым не ўзнікалі праблемы паліву, барацьбы са шкоднікамі і т.п.

**Падкормка, захады супраць пустазелля.** Праз 7-10 дзён пасля пасадкі (усходаў) раслін праводзіцца і падкормка. Да гэтага сумесь № 2 ручаёчкамі рассыпаецца пасярод градкі з разліку 50 г. на адзін пагонны метр, а затым добра паліваецца вадой. Паліў павінен быць дастатковым, але без "патопу". Лепей таксама не пырскаць на лісце і дарожку. ТМ раіць на канец шланга накруціць анучу, моцна яе прывязаўшы. Пры такой падкормцы і паліве пустазелле зусім не прарастае пасярод градкі з-за высокай солевай канцэнтрацыі. Што ж да борцікаў, то там мала прарастае пустазелля, а з праросшым справіцца лёгка. Дастаткова матычкай альбо нават зваротным бокам граблёў у сонечнае надвор'е разварушыць борцікі, а потым сабраць іх зноўку. Пустазелле на дарожках зразаецца матычкай (не палоць!). У ТМ матычку называюць "касой", гэта значыць, яна павінна быць вострай, з доўгім лязом, з доўгай, добрай ручкай, каб ёю працаваць стоячы, не гнучы спіну.

Колькасць падкормак залежыць ад віду культуры. Напрыклад, для салаты — толькі 1, для бульбы, морквы, гароху — да 4-х, памідораў, перцаў — да 8-мі. Лічба ўмоўная. За кожнай раслінай трэба назіраць, ходзячы па шырокіх дарожках. Кожны раз, калі расліна пачынае выглядаць зморанай, трэба яе падкарміць. Адначасова трэба памятаць, што перакорм яшчэ больш шкодны. Расліна сваім выглядам падказвае, чаго ёй не хапае.

### Калі недастае мінеральнага жыўлення:

| Прыкметы хваробы | Дыягназ | Як дапамагчы |
|---|---|---|
| Дрэннае развіццё сцяблін і лісця, адсутнасць пладоў, агульнае пажаўценне | азотны голад | 50 г. нітрату амонію на 1 п.м. |
| Чырвоныя і фіялетавыя колеры на верхняй паверхні лісця, барвовыя з фіялетавымі на ніжняй паверхні, дрэнная якасць пладоў | фосфарны голад | 25 г. дыамоніфасфату на 1 п.м. |
| Бурыя сухія плямы на лісці, дрэнная якасць пладоў, дрэнны рост каранёў | калійны голад | 50 г. хларыду калію на 1 п.м. |
| Дрэннае цвіценне і пладанашэнне, дрэнны рост каранёў, "апёкі" на лісці, павялічаныя памеры лісцяў | кальцыевы голад | 50 г. нітрату кальцыю на 1 п.м. |
| Пачарненне сарцавіны клубняў, адміранне вяршалінных пупышак | борны голад | 2 г. борнай кіслаты на 1 п.м. |

Вузкія градкі з шырокімі дарожкамі пры захаванні неабходных агратэхнічных прыёмаў забяспечваюць добрыя ўраджаі чыстай бeзнітратнай прадукцыі на любых глебах незалежна ад надвор'я. Ад засухі засцерагае своечасовы паліў, ад ранніх халадоў — плёнка на каркасе невялікіх памераў ці проста мешкавіна. Дажджлівае надвор'е прынясе больш турбот з пустазеллем, але шырокія дарожкі даюць магчымасць расліне атрымаць дастаткова сонечнай энергіі і прасторы для росту ўшыркі. Апошнія расліны выкарыстоўваюць актыўна — і ад шырокай дарожкі амаль нічога не застаецца ў першай палове лета. Шырокія дарожкі даюць магчымасць без дадатковых намаганняў трымаць агарод у чысціні.

На наступны год градкі і дарожкі застаюцца на сваіх месцах, мяняюцца толькі культуры, а пустазелля ўсюды значна паменее.

**Л.СУДЗІЛОЎСКАЯ.**

*(Заканчэнне будзе.)*

*Як на дзіцячы розум*

## Не кажы, колькі каштуе...

Кастуську было гадкі чатыры, не болей. Выйшлі мы аднойчы з ім гуляць у садок, што паблізу так званых Маскоўскіх могілак. Якраз там ужо гуляў незнаёмы нам чалавек, з такім жа, як Кастусёк, хлопчыкам. Яны весела бавілі час. У незнаёмага нам хлопчыка была вельмі адмысловая цацка: якісь парашуцік. Яны яго запускалі з пісталета. Той парашуцік куляй ляцеў у паветра і там, дасягнуўшы пэўнай вышыні, распускаўся і паволі пачынаў апускацца на зямлю.

Я дагэтуль такой цацкі-забавы ніколі не бачыў. Не бачыў яе і Кастусь. Ён, як зачараваны, глядзеў на той парашуцік, не зводзіў з яго вочак. Калі, нарэшце, парашуцік апусціўся на зямлю, Кастусёк сказаў:

— Дзядулька, купі і мне такі парашуцік!

Я рэдка купляю ўнукам цацкі, досыць з іх і тых, што бацькі ім купляюць. Але такую цацку купіў бы.

— Збегай,— кажу Кастуську,— і спытайся, дзе яны купілі парашуцік?

Кастусёк пабег не адразу: ці то трохі сароме́ўся, ці то баяўся, але жаданне займець цацку пераадолела нерашучасць, і ён пабег. Вярнуўся даволі хутка.

— На Камароўскім рынку купілі,— сказаў Кастусёк. Трошкі счакаў, неяк паглядзеў на мяне ні то спагадна, ні то жадаючы мяне пакрыўдзіць, дадаў: — Толькі, дзядулька, як пойдзеш купляць на Камароўку, не кажы: "Колькі каштуе?", а скажы: "Сколько стоит?", а то цябе не зразумеюць і не прададуць табе парашуціка.

Ці трэба казаць, як я быў уражаны. Хлопчыку усяго нейкія чатыры гадочкі, а ён ужо зразумеў, што ў краіне, у якой ён жыве, з беларускаю моваю робіцца штосьці незразумелае, няладнае: карыстаючыся ёю, за свае ж грошы можаш не атрымаць патрэбны тавар.

**Ул. СОДАЛЬ.**

## Віталік, 4 гады

На прыёме ў лагапеда.

— Скажы "рэчка".

На што Віталік адказвае:

— Вада.

* * *

Ён жа пахваляецца:

— Цёця, татка, мяне так любіць, так любіць.

— Чаму ты гэтак думаеш?

— Ён мне казаў: "Ах ты, мой пузыр!"

**Учула Л.СУДЗІЛОЎСКАЯ.**

*Здароўе*

*Таццяна Фаміна, кандыдат медыцынскіх навук*

## Вітаміны групы В

Рэчываў, што аб'яднаныя ў гэтай групе, назбіралася ўжо шмат. Нават сама важных — адзінаццаць. Гэта вітаміны $B_1$ — ціамін, $B_2$ — рыбафлавін, $B_3$ або PP — ніацін, які існуе ў розных формах, $B_6$—пірыдаксін, $B_{12}$ — цыянкабаламін, Н — біяцін, а да таго ж — халін, іназітол, ПАБК — параамінабензойная кіслата, пантатэнавая кіслата, фолievая кіслата.

Усе яны ўваходзяць у склад энзімаў або іх актывізуюць — дзейнічаюць нават невялікія іх дозы. Вітаміны групы В лёгка растваряюцца ў вадзе. Іх крыніцамі з'яўляюцца дрожджы, печань, а таксама збожжавае зерне, а патрэбныя гэтыя вітаміны пераважна нашым нервам.

**Ціамін — супрацьнеўрыйны вітамін**

Класічны прыклад небяспекі, што ідзе ад недахопу вітаміну $B_1$,— хвароба бэры-бэры, якою мучаюцца і ад якой нават паміраюць людзі, што спажываюць выключна ачышчаны рыс. Але хваравіты стан, прычынай якому недахоп ціаміну, вядомы шмат каму. Недобрае самаадчуванне, што не праходзіць, пастаянная нервознасць, ды асабліва, калі чалавека нудзіць пасля яды,— гэта першыя сігналы, што трэба змяніць перш за ўсё спосаб харчавання.

Бывае так, што ў чалавека паніжаны ціск, і ён падмацоўвае сябе кавай, спажываючы яе шмат, а менавіта гэты напой, як дарэчы, і чай, моцна разбурае ціамін. Ды ў гэтакіх выпадках больш памагаюць дрожджы і комплекс вітамінаў групы В. Дрожджы, як ужо раней згадвалася, трэба абліваць варам. А ціаміну шкодзіць высокая тэмпература. Як бачым, штодзённае запатрабаванне арганізма на вітамін $B_1$ не так проста выканаць.

**Асноўныя правілы**

Мы звычайна прывыклі "аберагаць" свой страўнік. І калі што-небудзь з ім адбываецца, то, прыкладам, гародніну мы варым, грунтоўна яе раздрабняючы. А да таго ж, спажываем белы хлеб. І такім чынам не дадаём сабе ціаміну, бо менавіта ў сырой гародніне, у харчы, зробленым з цэлага зерня, сама больш вітаміну $B_1$. Гэта трэба асабліва ўлічваць людзям у старэйшым веку, і часта так званы склероз, калі дзядок ці бабуля скардзяцца: "забываюся",— не што іншае, як недахоп ціаміну. Варта нагадаць, што алкаголь таксама не спрыяе засваенню арганізмам вітаміну $B_1$. Разбураецца ён і пад час так званага кансервавання. Стэрылізацыя цягам 25 хвілінаў — нішчыцца да 25 працэнтаў ціаміну.

**Як жа стаць аптымістам?**

Нам, верагодна, не пагражае бэры-бэры, але хваравіты, меланхалічны стан, стан дэпрэсіі можа стаць звычайным. Каб запабегчы яму, у наш час недастаткова, як то раілі дактары даўней, есці сланечнікавыя семкі (вядома ж, не пражаныя). Не трэба забываць і пра "Геркулес"— душанае аўсянае зерне,— зноў жа сырое, бо яно сама менш у чатыры разы багацей на вітамін $B_1$. Бульбу таксама раяць есці, але печаную. Гарох і фасолю трэба варыць у той жа вадзе, у якой іх замачылі, бо ціамін раствараецца ў вадзе.

Вечна змучаным, неспакойным, нервовым, апатычным людзям, вучням, студэнтам, асабліва перад экзаменамі, калі важна сканцэнтраваць думкі, не кажучы ўжо пра жывую памяць, неабходна есці чорны хлеб, грачаную кашу, лясныя арэхі. А з харчу жывёльнага паходжання трэба выбіраць сэрца, печань, бо ў іх значна больш ціаміну, чым у мясе, г.зн. у мышцах. У ліку іншых прадуктаў, што дапамогуць нам стаць аптымістамі, варта згадаць грэцкія арэхі, бараніну, пансак, яйкі, тварог і белы сыр, рыбу і, пэўна ж, капусту і яблыкі.

*Зялярскія гутаркі*

## Сланечнік

Свойская расліна, што паходзіць з далёкай Паўднёвай Амерыкі, даўно ўжо аздабляе нашыя агароды. Памятаеце: "Там камандуе парадам сам сланечнік залаты"? Ласунак, даўней, праўда, значна менш папулярны за гарбузікі, цяпер заваёўвае нашую кішэню і... забруджвае вуліцы... Хоць і не варта прапагандаваць лузганне семак, бо і не эстэтычна, і не здарава (брудныя рукі!), але есці сланечнікавае "сем'е" трэба. У ім — да 40 адсоткаў тлустага алею, 20 — бялку, каля 25 адсоткаў вугляводаў. Ды і рэшта — стэрыны, фосфаліпіды, каратыноіды, хлорагенавая, лімонная, вінная кіслоты — вельмі неабходныя нашаму арганізму рэчывы.

Сланечнікавы алей спажываюць не толькі як дасканалы харчовы і дыетычны сродак, але і дзеля лекавых мэтаў, сама перш дзеля прафілактыкі і лячэння склерозу. З сланечнікавым алеем рыхтуюць эмульсіі, мазь дзеля лячэння ран.

Але і неядомыя часткі сланечніку маюць шмат карысных рэчываў. У лісці і кветках выяўлены флаваноіды, сананіны, стэрыны, каратыноіды, фенолкарбонавыя кіслоты, антацыяны. З сухіх сланечнікавых лісця і язычковых, крайніх, кветак рыхтуюць спіртовую настойку, якую спажываюць дзеля паляпшэння апетыту, ад празмернай патлівасці, і папалам з настоем эўкаліптавага лісця — як дасканалы сродак дзеля выдалення макроты.

Адвар язычковых кветак п'юць ад жаўтухі, ліхаманкі, а таксама пры сардэчных хваробах. Дзеля лячэння рэўматызму выкарыстоўваюць усю шапку, якую зрэзваюць пад час выспявання зярнятак, рэжуць на дробныя кавалкі, заліваюць гарэлкай і, дадаўшы мыла, ставяць на сонца на 9 дзён, а пасля — націраюць хворыя суставы.

**Зяляр.**



*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

**Францішак Багушэвіч.**

*Вучымся*

Вікторыя ЛЯШУК,
кандыдат філалагічных навук

# Стрыжань

## У гутарцы і размове

*Гутарковы стыль індывідуалізаваны, гэта зближае яго з публіцыстычным і стылем мастацкай літаратуры, выразна адрознівае ад нейтральных афіцыйна-дзелавога і навуковага.*

**А.К.Юрэвіч.**

Наша гаворка пра функцыянальныя стылі і адметнасць створаных у пэўнай стылістычнай сістэме тэкстаў набліжаецца да завяршэння. Разгледзім сёння апошні, звязаны пераважна з вуснай формай выказвання, функцыянальны стыль — **размоўны** (які яшчэ называюць **вусна-размоўным, гутарковым**). Яго моўныя асаблівасці вызначаюцца такімі характарыстыкамі, як нязмушаны, неафіцыйны характар выкладу, эмацыйна-экспрэсіўная афарбоўка. Сферай выкарыстання размоўнага стылю з'яўляюцца найперш побытавыя дачыненні. Як заўважае А.А.Каўрус, "гутарковая мова звязана з канкрэтным характарам мыслення, з патрэбамі штодзённых зносін, таму ў ёй шмат канкрэтна-бытавых слоў". Г.Ф.Вештарт удакладняе, што функцыянаванне гэтага стылю "абмежавана сферай сям'і, сяброўскіх зносін, ...дзелавых размоў у асяродку беларускамоўнай інтэлігенцыі — пісьменнікаў, літаратуразнаўцаў, настаўнікаў, мова-ведаў..."

У адрозненне ад кніжных стыляў, якім характэрна маналагічная форма, гутарковае маўленне, як правіла, увасабляецца ў дыялогу, які патрабуе імгненнай рэакцыі, абмяжоўвае час абдумвання. Папярэдняя непадрыхтаванасць размовы, так званая спантаннасць, вызначае такія моўныя асаблівасці, як няпоўная аформленасць структуры (асобныя словы і цэлыя сказы могуць замяняцца красамоўнай паўзай, адпаведнай мімікай, пэўнымі рухамі ды жэстамі). У гэтым стылі часта ўжываюцца выклічнікі (**ай, гэй, ды ну, вой**), звароткі. Яму ўласцівы паўтор, устойкі, індывідуальнае спалучэнне стандартных сродкаў і арыгінальных формаў выказвання. Важнай адзнакай размоўнага стылю з'яўляецца экспрэсіўнасць, што выразна прасочваецца ў наступным выказванні: **"А лён! Лён даглядалі даўней, як маці родную. Затое завязеш семя на кірмаш — чыстае, адборнае! Дык з рукамі рвуць. Праўду кажу".** У ім ярка праяўляецца спецыфіка стылю — спрашчэнне канструкцый, перарывістасць, эмацыйнасць.

*(Працяг будзе.)*

*Практычная стылістыка*

# Тыповыя рысы

**"Гэтыя персанажы тыпічны: яны збіраюць у сабе характэрныя рысы людзей".**

Пачнём стылістычны аналіз цытаваных радкоў з кароткага прыметніка **тыпічны** (яны). Як справядліва ўказвае Л.І.Сямешка, кароткія якасныя прыметнікі тыпу **дуж, смел, повен** (у назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду), **рада, шчасліва** (у жаночым і ніякім родзе), **рады, дужы** (у множным ліку) у беларускай мове ўжываюцца вельмі рэдка..." Даследніца акрэслівае стылістычныя межы выкарыстання такіх формаў: "Кароткія прыметнікі сустракаюцца пераважна ў фальклоры, а таксама ў мастацкай літаратуры, асабліва ў паэзіі — часта з мэтай стылізацыі пад народную песню". Значыць, такая форма ў прыведзеным тэксце стылістычна неапраўданая. Ды і сам прыметнік, хоць і ўключаны ў ТСБМ, у нарматыўны "Слоўнік беларускай мовы" пад рэдакцыяй М.В.Бірылы, успрымаецца штучнай калькай, бо ў беларускай мове ўжывальны іншы словаўтваральны варыянт, з суфіксам **-ов- — тыповы**. Пры выпраўленні сказа трэба ўлічыць, што поўная форма з канцавой літарай **я** і пачатковае **я** займенніка **яны** ў моўнай плыні ўтвараюць нематываваны паўтор — немілагучнасць. Гэтай стылістычнай памылкі можна пазбегнуць, змяніўшы сінтаксічную структуру ці выкарыстаўшы сінанімічныя сродкі.

Цяпер звернемся да дзеяслова **збіраць**, які ва ўсіх сваіх значэннях указвае на актыўнае дзеянне асобы. Напрыклад, **збіраць гасцей, людзей** ('запрашаць, склікаць'); **збіраць бібліятэку** ('накапіць, паступова збіраючы, адшукваючы'); **збіраць подпісы, штрафы** ('атрымліваць, прыкладаючы пэўныя намаганні'); **збіраць кветкі, маліны, грыбы** ('накопліваць, нарыхтоўваць'); **збіраць тэлевізар, прыбор** ('рабіць тэхнічна складаную рэч, злучаючы яе часткі'); **збіраць у дарогу** ('падрыхтаваць'); **збіраць вячэру** ('падаць на стол') ды інш. Да таго ж, вялікая колькасць значэнняў уплывае на стылёвую асаблівасць слова ўспрымацца стандартам, траціць яркасць наймення. Ужытае ж недакладна, яно не толькі скажае змест, але парушае стылёвую гармонію, сведчыць пра недастатковыя моўныя веды.

Прывядзём магчымыя варыянты выпраўлення:

**Гэтыя персанажы тыповыя, бо надзеленыя адметнымі рысамі чалавечага характару.**

**... бо вызначаюцца рэалістычнасцю і мастацкім абагульненнем.**

**Гэтыя персанажы тыповыя: у іх сабраныя найбольш яркія рысы характару.**

**...у іх характары перададзеныя рысы, уласцівыя многім рэальным людзям.**

**...у іх характары абагульняюцца істотныя рысы рэальных людзей.**

**... бо ўвасабляюць абагульненыя характары рэальных людзей.**

*З гісторыі красамоўства на Беларусі*

# Як прыяцелю...

*Дыхае слова простае*
*Свежасцю праславянскай.*
**Люба Тарасюк.**

У міждзяржаўных гандлёвых дачыненнях была выпрацавана строгая сістэма судовага вырашэння прыватных канфліктаў, што адлюстравана ва ўсіх дамоўных граматах, пачынаючы з пагаднення 1229 г. У такіх дакументах заканадаўчыя нормы фармуляваліся ў абагульненай форме. Асобныя моманты судовай практыкі канкрэтызаваныя ў Граматэ полацкага намесніка Фёдара, напісанай (паводле меркавання навукоўцаў) да 1412 г. У ёй паведамляецца пра судовы разбор скаргі палачаніна Пятра на рыжскага купца Панцялея, які гандляваў няякасным таварам. Працытуем дакумент поўнасцю:

***Отъ наместь*[ні]*ка полоцкого Федора приятелемъ нашим ратъманомъ ризькимъ.***

***Биль нам чолом Петръ. И поставили есмо тые люди передъ собою и передъ бояры Исака да Кузму. А при томъ были немци ваши Гарасим да Кгрань.***

***И людники выговорили, што же Пантелеи нялься*** [гарантаваў] ***Петру за добрые селедьци.***

***А Петрови тые люди не племя.***

***А присягнули передъ бояры на том и передъ вашими немьци.***

У гэтым пасланні ўжыты зварот да ўладных асобаў іншай дзяржавы, якім падкрэсліваецца сяброўскае, прыязнае стаўленне — ***приятели.*** Гэтае слова і ў наш час перадае тоеснае значэнне. Усе наступныя радкі гэтага дакумента сціслa, з неабходнай дэталізацыяй найбольш важных этапаў судовага працэсу, інфарматыўна пераказваюць сутнасць і ход справы. Факты пададзеныя ў строгай лагічнай паслядоўнасці судовага дазнання, якое пачынаецца са скаргі Пятра ***(биль нам чолом)***. Затым былі выкліканы ўдзельнікі і сведкі канфлікту ***(поставили тые люди передъ собою)***. Далейшыя звесткі ўказваюць на склад суда, які тварылі сам намеснік Фёдар і двое баяраў, названых пайменна. Юрыдычная правамоц справы падкрэсліваецца прысутнасцю прадстаўнікоў дамоўнай краіны, таксама з канкрэтызацыяй асобаў — ***Гарасим да Кгрань*** (фанетычна змененае прозвішча Ганса Грана).

Высвятленню ісціны спрыялі паказанні сведкаў ***(людники выговорили)***. Пры гэтым пацвярджаюцца заканадаўча абумоўленыя працэсуальныя акалічнасці — людзі, паказанні якіх уплываюць на рашэнне суда, не сваякі Пятру ***(не племя)***, яны павінны прысягаць перад судом у праўдзівасці сваіх слоў.

Як бачым, паведамленне нешматслоўнае, але надзвычай інфарматыўнае. Аўтар паказаў выдатную дасведчанасць у сродках моўнай эканоміі, спосабах лагічнага і выразнага выкладу, упарадкаванага строгай кампазіцыяй. Пры гэтым стыль тэксту вызначаецца апавядальнай інтанацыяй, уласцівай летапісам, народным казанням, што надае выказванню самабытнасць ды арыгінальнасць, пацвярджаючы ўпэўненасць многіх беларускіх творцаў, што афіцыйнае выказванне можа ўвасабляць каларыт жывой мовы.

*Беларускае адраджэнне*

Алена ЯСКЕВІЧ,
кандыдат філалагічных навук

# "Граматыка" Івана Ужэвіча і эпоха абуджэння славянства

Звесткі пра французскі перыяд І.Ужэвіча больш значныя... У аддзеле рукапісаў нацыянальнай бібліятэкі ў Парыжы пад № 3876 удалося знайсці рукапіс-аўтограф in 4° "Граматыка словенская, напісаная праз Івана Ужэвіча Славяніна, Слаўнай Акадэміі Парыжскай у Тэалогіі Студэнтам..." Рукапіс датаваны 1643 годам. А затым у мясцовай бібліятэцы г.Араса, што на поўначы Францыі, быў адшуканы другі рукапісны варыянт той жа працы "Граматыка Словенская зложена й написана трудом й прилежанием Івана Ужэвіча словянина" (1645 г.)

Хаця дакладна вядома, што "Граматыка" І.Ужэвіча не друкавалася пры жыцці аўтара, было б няправільным лічыць, што ў айчынным і замежным мовазнаўстве не было вядома пра яго навуковую спадчыну.

Звяртацца да прац І.Ужэвіча пачалі ўжо ў пачатку XVIII ст., і як не дзіўна, перш за ўсё замежныя вучоныя.

Упершыню на яго рукапіс спаслаўся візантолаг А.Бандуры ў сваіх нататках "Усходняя дзяржава або канстанцінопальская старажытнасць. Аб кіраванні дзяржавай", надрукаваных у 1711 г. у Парыжы і паўторным выданнем у 1729 годзе ў Венецыі. Вучоны цытуе лацінскі загаловак парыжскага варыянта працы І.Ужэвіча і прапануе ўвазе чытача чатыры табліцы кірылаўскага алфавіту, пазычаныя з яго "Граматыкі".

Асаблівую ўвагу да прац І.Ужэвіча праявілі славянскія даследнікі. Нельга забываць, што XVIII стагоддзе — гэта эпоха ўздыму нацыянальна-вызваленчага руху заходніх і паўднёвых славян, абуджэння нацыянальнай годнасці і ўвогуле самая напружаная пара ў фармаванні славянскіх нацый. Славянскія мовазнаўцы пры складанні сваіх граматык абапіраліся на вопыт І.Ужэвіча. У прыватнасці, вядомы даследнік славяншчыны І.Добраўскі ў сваіх "Асновах славянскай мовы", спасылаючыся на матэрыялы В.Копітара, прыводзіць звесткі пра рукапіс І.Ужэвіча 1643 года.

Хоць у гэтым Івану Ужэвічу пашчасціла. Яго літаральна адкрылі свету "будзіцелі славян", аўтарытэты сусветнага мовазнаўства, абодва замежныя члены Расійскай Акадэміі навук чэх Іозеф Добраўскі і яго малодшы сябра славенец Варфаламей Копітар. Ім імпанавалі яго адважны палёт навуковай думкі, туга па велічы Радзімы, якую пачынаў абыходзіць лёс.

Зацікавіўся працамі таленавітага студэнта Сарбоны і расійскі вучоны Сяргей Строеў, аўтар "Апісання помнікаў славяна-рускай літаратуры, захаваных у публічных бібліятэках Германіі і Францыі са здымкамі з рукапісаў" (1841).

Адносна паходжання Івана Ужэвіча І.Добраўскі, В.Копітар, а ўслед за імі і С.Строеў выказвалі меркаванне, што стваральнік яе ("Граматыкі...") быў палякам або рускім з Польшчы, бо змешваў польскае са славянскім, называючы яго "словонцам (slovono)."

Навукова абгрунтаваны погляд на паходжанне нашага славутага суайчынніка выклаў П.Мартынаў у сваёй бібліяграфічнай працы "Славянскія рукапісы ў дзяржаўнай бібліятэцы Парыжа". Ён лічыць І.Ужэвіча рускім з паўднёва-заходніх земляў, бо ягоны трактат аформлены згодна з традыцыямі не заходнерымскага, а ўсходневізантыйскага хрысціянскага артадокса.

Такія сціслыя звесткі пра граматыку Ужэвіча ў парыжскай рэдакцыі данеслі да славянскага чытача першыя даследнікі спадчыны нашага таленавітага граматыста.

*Матэрыялы да слоўніка "Беларускія імёны"*

Сымон Барыс

# Як у нас клічуць

## Жаночыя імёны

*(Заканчэнне.)*

**Часлава.** Чеслава — жаночае імя ад мужчынскага імені Часлаў (слав.) — з вялікай славай. Вытв. Чэся, Чэська, Чэсечка, Часюля. Імяніны кат. 20.04; 20.07.

**Чарнава.** Чернова (слав.). Вытв. Чарнаўка.

**Эвяліна.** Эвелина (ст. яўр.) — ласк. ад Ева — жыццё, згода; імя першай жанчыны. Імяніны кат. 24.12.

**Эдзіта.** Эдита (са ст. анг.) — уласнасць і багацьба. Імяніны кат. 16.09.

**Эла.** Элла. Вытв. Элка, Элачка.

**Эля. Элеанора.** Элеонора (італ.) — паходзіць з грэц. — міласэрнасць. Вытв. Лёля, Леанора, Лёлечка. Імяніны кат. 21.02.

**Эльвіра.** Эльвира (ісп.) — узнёслая. Імяніны кат. 14.06.

**Эма.** Эмма. Вытв. Эмка. Імяніны кат. 11.04.

**Эльза.** Эльза.

**Эміля. Аміля.** Эмилия. Вытв. Маля, Міля, Амілься, Мэля, Мільдэся. Імяніны кат. 14.11.

**Юзэфа. Югася.** Юзефа — жаночае імя ад мужчынскага імені Юзэф (Юзюк).

**Юля. Юлія.** Юлия — жаночае імя ад мужчынскага імя Юлій, якое з грэц. — кучаравы. Вытв. Юлька, Юлечка, Юленька, Юльця, Юліта. Імяніны: пр. 31.05; 29.07; кат. 07.01; 16.04; 22.05; 10.12.

**Юня.** Юния (лац.) — чэрвеньская. Вытв. Юнька, Юнечка, Юнюля. Імяніны пр. 30.05.

**Юстына. Усціна.** Юстина (лац.) — жаночае імя ад мужчынскага імені Юстын — які мае адносіны да *Юста* (прававерны, справядлівы). Вытв. Усціна, Усціння, Усця, Усцечка; Юста, Юстачка, Юстанька. Імяніны: пр. 15.10; кат. 14.04; 16.06; 01.08; 17, 27.09; 30.11.

**Юта.** Юдита (балг.), якое са ст. яўр. — Юдифь — жанчына з Юдэі. Імяніны кат. 06.05; 13.05.

**Ядвіся, Ядвіга.** Ядвига (польск.), якое са ст. ням. — бой. Вытв. Ядзя, Ядзвіня. Імяніны кат. 17.07; 15, 16.10.

**Яніна. Яна.** Янина — жаночае імя ад мужчынскага імені Ян, якое ад Иоанн (яўр.) — Божая ласка. Вытв. Янечка, Януся, Януля, Яня; Янінка; Яна. Імяніны кат. 04.02; 21.08.

**Яліна** (бел.). Вытв. Ялінка, Яліначка.

**Яраслава.** Ярослава (слав.) — жаночае імя ад мужчынскага імені Яраслаў — той, хто яркі славай. Імяніны 21.01; 25.04.

**Яўгенія.** Евгения — жаночае імя ад мужчынскага імені Яўген. Вытв. Жэня, Аўгуся, Аўгіння; Жэнька, Жэнечка. Імяніны кат. 13.09.

**Яўлампія.** Евлампия — жаночае імя ад мужчынскага імені Яўлам (грэц.) — з добрым святлом.

**Яўфімія.** Евфимия — жаночае імя ад мужчынскага імені Яўхім, Евфимий (грэц.) — дабрадушны.

У нашым іменніку для вызначэння афіцыйнага ("пашпартнага") імені мы бралі за аснову мілагучнасць і пашыранасць формы ў народным побыце, шмат якія з іх мілагучныя, і нам не варта іх забываць, а трэба імі называць нашых сыноў і дачок, унукаў і ўнучак. І няхай яны добра паслужаць нашым нашчадкам, як некалі служылі нашым продкам. І неабходна патрабаваць, каб у органах ЗАГСа і пашпартных аддзяленнях запісвалі беларускія імёны і па-расійску без перакладу. Напрыклад: Надея Януковна, Алесь Рыгоравич, Антось Кастусевич, Сымон Тодарович, Язэп Тамашевич і інш. Наяўнасць формаў на **-усь, -ук** у афіцыйным іменніку не павінна замінаць раіць людзям называць сыноў поўнымі формамі, напрыклад, Самойла (нароўні з Самусь). Толькі ў такім выпадку мы захаваем сваё нацыянальнае аблічча як народ.

Лічым неабходным звярнуць увагу чытачоў, што імёны, якія падаюцца ў дадатку "Русско-белорусского словаря. Для средней школы" С. М. Грабчикова (Мн., 1976), — пераважна расійскія формы імёнаў, напісаныя на беларускай мове. Прыведзеныя толькі некаторыя беларускія: Мікола, Пракоп, Марка, Ганна — іх не набярэцца і дзесятка. Не называецца, прыкладам, імя Якуб.

